**Іван Штэйнер**

# "Мудрости зачало и конець..." або Спакушэнне Францыска Скарыны

*П’еса*

*Літаратуразнаўцы аб творы*

Гомель
2012

УДК 882.6-2
ББК 84(4Беи-2Гом)

**Штэйнер, І.Ф.**

"Мудрости зачало и конець... " або Спакушэнне Скарыны: п'еса /Іван Штэйнер; Прадмова П.В. Васючэнкі; Літаратуразнаўцы аб творы: артыкулы Т.В. Аўдонінай, І.В. Жука. - Гомель: Барк, 2012. - 74 с.

ISBN 978-985-6763-84-0

2012 год - адметны для Беларусі, бо гэта і Год кнігі, і 6 жніўня гэтага года спаўняецца 495 гадоў беларускаму кнігадрукаванню.

У п'есе Івана Штэйнера на фоне гісторыка-культурнага жыцця Вялікага княства Літоўскага і ўсей Еўропы пачатку XVI стагоддзя паказана постаць славутага беларуса Францыска Скарыны - заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання, асветніка-гуманіста эпохі Рэнесансу, чалавека living розанабаковых талентаў і энцыклапедычных ведаў. Робіць гэта аўтар незвычайна: праз сумяшчэнне часавых пластоў - XVI і XXI стагоддзяў, адпаведную мадэрнізацыю рэаліяў і няспыннае змяненне жанравай прыроды дзеяння. У п'есе побач ідуць сур'ёзнае і камічнае.

Гэта твор і пра нас. Ці ўсвядомілі сучасныя беларусы гуманістычную вышыню Францыска Скарыны?..

Задаць гэтае пытанне — і адказаць на яго чытач ці глядач зможа сам.

ISBN 978-985-6763-84-0

## КОД ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Беларуская драматургічная Скарыніяна, якая бярэ пачатак ад п'есы "Скарынін сын з Полацка" (1926) Міхайлы Грамыкі, надзвычай шматстайная і аб'ёмная, налічвае больш за 50 твораў (дзякуючы конкурсу, абвешчанаму ў юбілейны год Скарыны). Ёсць у гэтай тэкставай прасторы сур'ёзныя біяграфічныя драмы (дыялогія А.Петрашкевіча), ёсць паэтычныя драмы ("Судны дзень Скарыны" М.Арочкі), ёсць і творы-бурлескі ("Vita brevis" М.Клімковіча і М.Шайбака). Але п'еса "Мудрости зачало и конецъ...", напісаная Іванам Фёдаравічам Штэйнерам, і на гэтым фоне вылучаецца сваёй самабытнасцю.

Адметна, што яе стварыў навуковец, доктар філалагічных навук, вядомы наватарскімі працамі ў галіне літаратуразнаўства, якія істотным чынам абнаўляюць уяўленні пра літаратурны працэс Беларусі, пераемнасць гісторыка-культурных эпох у працэсе развіцця беларускага мастацтва слова.

Натуральна, што Іван Штэйнер падключае да стварэння п'есы свой вялікі філалагічны досвед, свае значныя напрацоўкі ў галіне літаратуразнаўчай герменеўтыкі, але пры гэтым стварае не навуковы трактат, а менавіта мастацкі твор, які жыве і разгортваецца паводле законаў драматургіі.

Постаць Скарыны паказваецца аўтарам на фоне гісторыка-культурнага жыцця ВКЛ і ўсёй Еўропы пачатку XVI стагоддзя, у атачэнні такіх дзеячаў Адраджэння, як Марцін Лютар, Эразм Ратэрдамскі, Франсуа Рабле, Парацэльс ды іншых. Своеасаблівасць вырашэння творчай задачы заключаецца ў сумяшчэнні часавых пластоў – XVI і XXI стагоддзя, што выяўляецца ў выхадах на сучаснасць, мадэрнізацыі вобразаў і рэаліяў, выкарыстанні сучаснай лексікі, жарганізмаў і нават амерыканізмаў. Дзеянне няспынна змяняе сваю жанравую прыроду, паслядоўна ператвараецца ў дыскусію, перфоманс і г. д. Такое абыходжанне з гістарычнымі рэаліямі ўласцівае сучасным гістарыяграфічным творам, аўтары якіх, адыходзячы ад канонаў традыцыйнага гістарычнага жанру, шырока выкарыстоўваюць бурлескавасць, гратэск, пастыш, інтэртэкстуальнасць, анахранізм.

Пошукавы, эксперыментальны характар п'есы не замінае вырашэнню творчай задачы – падкрэсліць значнасць здзяйсненняў Скарыны і рэтransляваць іх сутнасць праз сістэму сучасных эстэтычных, інтэлектуальных кодаў. П'еса ўяўляе сабою цікавую

спробу разгадаць уласны інтэлектуальны код Скарыны і рэтрансляваць яго ў сучаснасць.

Створаная як літаратурны твор, п’еса Івана Штэйнера апелюе да сцэны сваімі нечаканымі драматургічнымі прыёмамі, непрадказальнымі паваротамі дзеяння, нязмушанасцю дыялогаў, эксперыментальнай скіраванасцю. Яна адкрывае вялікія магчымасці сучаснаму рэжысёру для ўласнай інтэрпрэтацыі зместу, дае шырокую прастору для творчай самарэалізацыі выканаўцам роляў.

*Пятро Васючэнка, літаратуразнаўца, пісьменнік*

# "Мудрости зачало и конець..."
# або
# Спакушэнне Францыска Скарыны

Дзеючыя асобы:

Скарына Францыск – полацкі купец, былы студэнт еўрапейскіх універсітэтаў, доктар лекарскіх навук.

Бялянка – тыповая бландынка з усімі належнымі класічнаму стэрэатыпу якасцямі.

Звяздар

Блазан

Парацэльс – славуты лекар 16 ст., аўтар кніг па медыцыне і натурфіласофіі,.

Лютар Марцін – бібліеіст, заснавальнік пратэстантызму, у драме акцэнтуецца ягоная перакладчыцкая і выдавецкая дзейнасць, строй манаха.

Эразм Ратэрдамскі – славуты пісьменнік і філосаф, перакладчык і тлумач Бібліі, лацініст, аўтар геніяльнай “Хвалы дурасці”

Вольны мастак –традыцыйная багемная фігура ў берэце,.

Лука Скарына – купец, бацька Францыска.

## З’ява 1

*(Кафедра усходнеславянскіх моў ва універсітэце)*

Скарына. Як паненка шаноўная мысліць, цягне гэтая глыба сапсаванай паперы на кандыдацкую дысертацыю, ці не вельмі?

Бялянка. Як на мой погляд, калі, зразумела, толькі гэта цябе, шаноўны пан, цікавіць, то цягне. Гэткая кіпа зробіць гонар любому універсітэцкаму туалету, а у студэнтаў амаль палову семестра канспекты застануцца без вырваных старонак.

Скарына. Чаго ты плявузгаеш, дурнічка?! Калі хочаш ведаць, то праз тыдзень прызначана абарона маёй працы. Вучоны савет в предвкушении банкета, перашкод чыніць не будзе. Дарэчы, тэма маей дысертацыі такая, што сам чорт галаву зломіць… Асветніцкая дзейнасць Францыска Скарыны!

Бялянка. А што?

Скарына. А тое, што пра яго асветніцкую дзейнасць, а тым больш пра яго прыватнае жыццё, амаль нічога не вядома. Есць некаторыя факты, але больш домыслаў, фантазій… Так што я без пяці хвілін – кандыдат навук. Вось і паразважай сваёй бялявай галавой. Ты пасля вучобы па абавязковаму размеркаваню паедзеш ля вясковай школкі бруд мясіць, ці застанешся на кафедре ля мяне лабаранткай?

Бялянка. Ня ведаю пра асветніцкую дзейнасць Скарыны, а вось святло запаліць трэба, бо нас застукаюць тут у такі час, і пойдзе пан сам гной у вёску мясіць, а мяне адлічаць за паводзіны, несумяшчальныя з маральным кодэксам члена БРСМ.

Скарына. А мы скажам, што ты здаеш мне хвасты…

(*Абдымае яе*)

Бялянка. У цемры?

Скарына. І наогул, мне трэба падрыхтавацца да абароны кандыдацкай…

(*Уваходзяць Звяздар і Блазан у сучасных касцюмах*)

Скарына. Ну што! Хто там? Ну я же вам русским языком сказал. Все хвосты пересдаем во вторник, с 14 00, в аудитории 2 – 15, что не понятно? И нечего на кафедру…

(*Блазан нешта паказвае Скарыне*)

Скарына. Так, слухаю…

Звяздар. Гэты?

Блазан. Ён.

Звяздар. Казіміраў Уладзіслаў Яўгеневіч, 1980 года нараджэння, беларус, халасты, адукацыя вышэйшая. Скончыў Гомельскі дзяржауны універсітэт, факультэт філалогіі, закасіў ад арміі, пазбегнуў абавязковага размеркавання. Зараз аспірант, працуе на кафедры ўсходнеславянскіх моў. Піша дысертацыю, дзе даследуе жыцце і творчасць Францыска Скарыны…

Блазан. А між іншым бадзяецца з усялякім маргінальным атрэб'ем, п'е з сябрамі гарэлку і піва ў забароненых месцах, бэсціць ўладу, а так сама дурыць галаву студэнткам з вядомай мэтай.

(*Выцягвае Бялянку з пад стала*)

Скарына. Ну .. гэта….

Блазан. Уладзіслаў Яўгенавіч, мы прапануем вам прыняць удзел у вельмі значнай справе, ну скажам, у гістарычным эксперыменце. Вядома, дабраахвотна.

Скарына. Цікава. А што за… эксперымент?

Блазан. Справа у тым, што з усіх нешматлікіх кандыдатаў вы нам найбольш падыходзіце. На некаторы час вам патрэбна будзе пераўтварыцца у героя вашай дысертацыі, тым больш, што знешне вы на яго падобны.

Скарына. У Скарыну? Як гэта, навошта?

Звяздар. Не хвалюйцеся, усе вельмі проста. Нам патрэбна высветліць толькі адзін момант з яго біяграфіі, але вельмі значны момант. Гэта самая цёмная пляма ягонага жыцця, а з вашай дапамогай яна стане вядома нам, а таксама і навуковым даследчыкам, да і ўвогуле ўсім людзям.

Блазан. Мы змесцім вас у дакладна такія жа абставіны, ў якіх апынуўся ў свой час Скарына і разам паспрабуем зразумець, чаму ён прыняў то, а не іншае вырашэнне, якое паўплывала на гісторыю ўсёй Еўропы і Беларусі ў прыватнасці.

Скарына. Добра, але навошта мнеператварацца ў Скарыну, можа я вам і так здолею растлумачыць. У маёй дысертацыі даследавана амаль усе жыццё…

Звяздар. Паважаны Уладзіслаў Яўгенавіч, калі нам спатрэбяцца нейкія тлумачэнні, мы вас выклічам. Не будзем марнаваць час, калі вы згодны, то так і кажыце, бо нам трэба вас яшчэ падрыхтаваць…

Скарына. А калі…

Блазан. А калі не, то бліжэйшы аўтобус, на якім вы паедзеце мясіць гной ля вясковай школкі, адыходзіць праз дзве гадзіны. За вашымі рэчамі мы заскочым. У вас зусім няма часу на развагі.

Скарына. Не. Ну навошта так? Вядома, я згодны. Гэта цікава мне як даследчыку… Але якім чынам вы змесціце мяне у абставіны 16 стагоддзя?

Звяздар. Гэтыя дробязі хай вас не турбуюць. Ну, скажам, з дапамогай тэатра. Тэатральнага дзеяння. Вядома, мы з вамі парэпетыруем…І на працягу ўсяго эксперымента будзем побач, каб весці запіс і даваць інструкцыі.

Блазан. Мы вам раскажам такія звесткі з біяграфіі Скарыны, якія вы не пачуеце ні ад ніводнага прафесара. Лічыце, вядома, што дысертацыя у вас ужо у кішэні.

Звяздар. Беларусі патрэбны свой герой, і кожны яго жыццёвы крок павінен быць даследаваны. Вы нам у гэтым дапаможаце. І гэта ваш абавязак як вучонага і як грамадзяніна.

Блазан. Ну, паехалі!

Скарына. Паехалі!

Бялянка. А-а-а… я.

Скарына. Бабу з сабой?

Блазан. Бабу?... з сабой!

**Запіс** – Францыск Скарына – сын свайго часу, сваёй вялікай эпохі, якая ўвайшла ў гісторыю сусветнай культуры пад назвай Рэнесансу. Гэта была эпоха, якая патрабавала тытанаў і якая нарадзіла тытанаў па сіле думкі, страснасці характару, па шматбаковасці і адукаванасці. Яны былі авеяны характэрным для таго часу духам смелых шукальнікаў прыгод. Тады не было амаль ніводнага буйнога чалавека, які не зрабіў бы далёкіх падарожжаў, не гаварыў бы на чатырох або пяці мовах, не вызначыўся б у некалькіх галінах творчасці. Адсюль тая паўната і сіла характару, якія робяць іх цэльнымі людзьмі: Леанарда да Вінчы, Альбрэхт Дзюрэр, Нікала Макіявелі, Марцін Лютэр, Эразм Ратэрдамскі, Мікалай Капернік, Томас Мор, Тамаза Кампанела. Наш народ нарадзіў у гэтую эпоху Францыска Скарыну і тым самым сцвердзіў свой веліч і самаснасць.

**З’ява 2**

(*Сярэднявечная гандлевая зала ў краме*)

Скарына. Як паненка шаноўная мысліць, адпавядае гэтая складаная, офісная канструкцыя няпростай і супярэчлівай эпосе сярэднявечча ці не вельмі?

Бялянка. Як на мой погляд, калі, зразумела, гэта Вас цікавіць, то цалкам адпавядае ўсім стэрэатыпам, цяперашнім і даўняшнім.

Скарына. Толькі майце на ўвазе, што сёння тут, знізу, *(паказвае на шыльду)* з'явяцца надзвычай істотныя словы-ўдакладненні. А якія – я яшчэ не вырашыў да канца.

Бялянка. У-у-уй!

Скарына. Менавіта сёння на сходзе акцыянераў нашай кампаніі я вырашу канчаткова, што тут будзе дамалявана – варштат, ладдзя, футра. Ці гэтыя піктаграмы ўжо анахранізм для нашай эпохі, я ж не гандлюю каланіяльнымі таварамі? Ды і шыльда сама па сабе ці ж не вельмі стракатая?

Бялянка Усё цудоўна. (*капрызна-какетліва*) Хачу Вас папярэдзіць на самым пачатку сумеснай дзейнасці, што калі яснавяльможны пан будзе пры мне казаць усялякія незразумела-непатрэбныя словы, і, не звяртаючы ўвагі на мой дзявочы стан, зноў палезе да мяне, то перспектыва нашага дальнейшага супрацоўніцтва ўяўляецца мне цьмянай і бесперспектыўнай.

Скарына. Ого!!! Тады вярніся на сваё рабочае месца і займіся сваёй непасрэднай справай, дзеля якой мы цябе сюды ўзялі .

Бялянка. Падумаеш…

Скарына. Тэрмінова яшчэ раз знайдзі ўсіх маіх былых сяброў, знаёмых, а таксама людзей, вартых увагі, аўтарытэтных у розных сферах навукі, палітыкі, гандлю. Вось табе яшчэ раз удакладнены спіс. Звяжыся з імі.

Бялянка. (*Кідае зневажальны погляд на велізарны світак*). Якім жа чынам мне з імі звязацца і прытым хутка, і нават тэрмінова?

Як жа мне з імі сумоўнічаць, ні тэлефонаў, ні факсаў, а тым больш электроннай пошты тут няма, і як я змагу перадаць ім жаданне пана скантактавацца з імі? І што гэта за дзіўныя адрасы, што за дзіўныя гарады, назвы якіх я ніколі не чула? Ці добра ўсведамляе сабе яснавяльможны пан, у якім стагоддзі ён жыве? Мы хоць і вельмі прагрэсіўная эпоха, але ж не да такой ступені.

Скарына. У тым і бяда, што вельмі добра ўсведамляю. У 16 стагоддзі, У сувязі з тваім пытаннем мы можам зараз вырашыць і тое, што тычыцца твайго іміджу, dress code. Дык вось, ты павінна апранацца ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі маральнасці гэтага стагоддзя. Паколькі мы жывём у свабоднай дзяржаве, ты вольная ў сваіх учынках, а таму можаш насіць усё, што душа твая пажадае, можаш нават зусім не апранацца. Толькі не парушай

дробязных умоў: у цябе павінны быць закрыты валасы, вушы, шыя, грудзі, калені і локці.

Бялянка. Ваааууу!!!

Скарына. Такія прынцыпы ў сярэднявечнай Беларусі. А ў астатнім ты абсалютна свабодная ў сваім прыкідзе, як і твае сяброўкі і сёстры па Еве (*кідае погляд у залу*). Памятай пра гэта на працягу нашага супрацоўніцтва і асабліва сёння, калі павінна акрэсліцца многае, калі вызначыцца перспектыва маёй будучай дзейнасці, вызначыцца той шлях, якім я вымушаны буду пайсці, каб рэалізаваць да канца і з немалым поспехам мой велічны праект і не менш значную задуму.

Бялянка. (*Выходзіць пераапранутая*) Нават так?!?

Скарына. (*Не чуе і не звяртае ўвагі*). Ісцінна так! Зразумей. Справа, якую мне прапанавалі, мае выключнае значэнне не толькі для мяне, але і для нашай Радзімы. Яе рэалізацыя стане выключнай падзеяй. У Беларусі зменіцца традыцыйны ўклад жыцця, Мы будзем садзейнічаць нараджэнню новай еўрапейскай нацыі. Можа нават *маё* імя стане бессмяротным. Я стану знакамітым, славутым…

Бялянка. Але ці багатым? Каханка Вальтэра паверыла ў ягоную геніяльнасць толькі тады, калі той разбагацеў. Толькі брахуны, дурні і вар'яты могуць сцвярджаць, што можна быць шчаслівым і свабодным, жывучы ў галечы. Ці будзе пан багатым філосафам, які на раскошнай віле разважае і сумна ўздыхае над марнасцю марнасцяў, суетой сует.

Скарына. Відаць, вучоба ля мяне для паненкі не прайшла марна.

Бялянка. Я і сама разумная. Кожная жанчына нараджаецца з трохтысячагадовым досведам. Мы разумнейшыя за вас. А на бессмяротных жабракоў – непрызнаных геніяў – я столькі наглядзелася ў офісах і ля ўніверсітэтаў, што калі б атрымала ад кожнага па адным талеры, то даўно б стала магнаткай, а не сядзела б у 16 стагоддзі у брудным офісе чарговага непрызнанага генія.

Скарына. Павер мне! Заставайся са мною. Праект мой здзейсніцца, у гэтым я перакананы!

Бялянка. (*убок)* Ох, гэтыя мужчыны, што не ідэя, то геніяльная, якая абавязкова перакуліць свет. Калі б гэтую энергію, што трацяць на перабудову свету пусцілі… на жанчын… ой-ой. Слухаеш іх, слухаеш, так і плывеш у мроях – бачыш прынца і замкі, золата, пальмы, аазісы, вярблюдаў. А потым усё знікае, нібы міраж: і замкі, і пальмы, і золата, аазісы, і ты застаешся сам-насам з вярблюдам.

Скарына. Я і сам прыйшоў да падобнай высновы. Ікаб не застацца з вярблюдам, я разаслаў запыты і прапановы ва ўсе зацікаўленыя канторы і інстанцыі.

Бялянка. На вашым месцы, пане, я асабліва не радавалася б. Пачынаюць пад'язджаць акцыянеры і госці.. Тых, што прыехалі, я пасяліла ў адпаведныя келлі, і яны чакаюць прызначанага часу сустрэчы і аўдыенцыі. Мне здалося.., калі пан дазволіць выказаць сваю думку…

Скарына (*з усмешкай, як да дзіцяці*). Давай-давай, у нас вольная краіна.

Бялянка. (*з імпэтам працягвае*) Мне здаецца, як і ва ўсе часы, не вельмі шануюць нас у той Еўропе, да якой мы так рвемся. Я думаю, што мы ў тым ЕС, Еўрапейскім Саюзе, нікому зусім не патрэбны, там сваіх бунтароў- Лютараў хапае, а гэта ж ого-го якая велічыня. Дарэчы, ён сёння будзе сярод гасцей.

Скарына Хто, Лютар?. Дык ён жа пазней за нас надрукуе нямецкія пераклады Святога Пісання. Наогул, Лютар выдаў Біблію ў 1522; 1534; французы – у 1530; англічане – у 1538 гадах. А мы – у 1517.

Бялянка. (*здзіўлена*). Не веру! Ды не можа быць, каб беларусы раней за немцаў зрабілі гэтую справу, мы ж дзікуны, калхознікі, быдла. Спытай у каго хочаш, кожны скажа, асабліва мы самі.

Скарына. Хто яго ведае, хто большы дзікун, хто меншы, бо англічане ў 1526 годзе павесілі Цындоля, які хацеў выдаць на роднай мове Новы Запавет.

Бялянка. О раны боскія! Дык чаго вы прэцеся ў тую Еўропу, што вы там згубілі там, дзе вас не чакаюць і бачыць не хочуць?! Сядзелі б у сваіх пушчах і сядзібах, маёнтках і фальварках, гандлявалі б скурамі, як і ўсе добрыя людзі,. Добра, што яшчэ каноплі пад кожнай хатай растуць і нікому яны не перашкаджаюць: людзі з іх віюць вяроўкі, а як прыемна сядзець у іх цянёчку і слухаць пошум ветрыка.

Скарына. *(усміхаецца)* Здорава!

Артыст. Прыдумалі, раскошу цывілізацыі ім падавай. Цывілізацыя, адукацыя. Як быццам сонца на захадзе ўстае. У нас саміх адукацыя на вышэйшым узроўні. Ды і выпускнікоў нашых універсітэтаў высока цэняць ва ўсім свеце. Вось Вы, пане (*звяртаецца да Скарыны*), вучыліся ў Кракаве, абаранялі званне ў Падуі, а забыліся, што ў нас існуюць уласныя акадэміі, выпускнікі

якіх цэняцца ва усім свеце. Асабліва гэта тычыцца вышэйшай навучальнай установы са слаўнага мястэчка Смаргонь.

Скарына. Аааа. Смаргонская акадэмія, жартоўная назва промыслу лавіць і дрэсіраваць мядзведзяў, заснавана князямі Радзівіламі ў Смаргоні, адна са школ беларускіх скамарохаў, дрэсіроўшчыкаў мядзведзяў.

Бялянка. Будынак акадэміі, як і сам навучальны працэс, вельмі просты. Ды ўсё было вельмі проста. Зловяць маленькага мядзведзіка ў пушчы, нібы якога будучага філолага, ці, не раўнуючы, матэматыка, і ў акадэмію. А там яго хутка да рук прыбяруць вопытныя дэканы і ў аўдыторыю.

Скарына. У яме дно заслана жалезнай перагародкай, пад ёй раскладваецца агонь. Мядзведзіку абуваюць драўляныя дошчачкі на ўсе лапы і апускаюць у вязніцу. Жалеза паціху грэецца і мядзведзік уздымаецца спачатку на заднія лапы, а затым паступова пераступае з нагі на нагу (*паказвае).*

Бялянка. У гэты час і пачынае грымець музыка і бубен. Праз некалькі сеансаў у звера выпрацоўваецца сталы інстынкт: як толькі ён пачуе музыку (не істотна, дзе, хоць далёка ад alma mater), ён пачынае таньчыць. За некалькі тыдняў студэнт навучаўся хадзіць па ваду, прасіць грошы, красці.

Скарына (*з усмешкай*). Як цяперашніх студэнтаў вучаць лічыць, дзяліць, пісаць дыктоўкі, здаваць іспыты. Добрая справа. Адукацыя заўсёды карысная. Неадукаваны чалавек можа абчысціць вагон, а спецыяліст з універсітэцкім дыпломам здольны ўкрасці цэлую чыгунку.

Бялянка. Майстэрства выпускнікоў было настолькі ўражлівае, што іх выкупляла ўся Еўропа, і цяпер былых гадаванцаў нашых пушчаў і акадэмій можна сустрэць ва ўсіх еўрапейскіх краінах. *(Тухне святло, на сцэне з'яўляюцца дрэсіраваныя мядзведзі, якія танчаць, просяць грошы, носяць ваду, водзяць карагоды. Кіруюць імі скамарохі ў выглядзе цыганаў)*

Артыст. Вось адзіныя да гэтага часу абсальвенты беларускіх вну, на які існуе вялікі попыт у свеце, і мне здаецца, што яны яшчэ доўга будуць запатрабаваны ў адрозненне ад філолагаў, юрыстаў і эканамістаў, *Усе на сцэне пускаюцца ў скокі. Музыка, танцы, мядзведзі скачуць танец маленькіх лебедзянят. Тухне святло. Сцэна поўнасцю цёмная.*

Бялянка. Пане, да Вас першыя з нашай каманды. Настрадамус. *(Той уваходзіць).* Мы яго назвалі Звяздар.

Звяздар. Дзень добры. Гэта я.

Бялянка. І Мерчэндайзер, кароль выпіўкі, rex bibendi, ну, тамада па-расійску, яго мы проста назвалі Блазанам (*уваходзіць у адпаведным абліччы,)*

Блазан. Прывітанне! Яж вам казаў: мы будзем побач.

Бялянка. Давайце Вашы рэкамендацыі (*чытае)* Добра што вы будзеце побач, бо у мяне да гэтага часу галава ідзе кругам ад хвалявання. (Скарыне) І няхай яны цяпер вядуць рэй, а я з дазволу пана пайду займуся банкетам у карчме, там я адчуваю сябе больш утульна і адпаведна.

Звяздар. Дазвольце толькі ўзгадніць некаторыя падраздзелы будучага меню, ну, спіску ежы, якую будзем падаваць на вячэрнім фуршэце. Чытай.

Блазан. Меню:_*(чытаецца паволі, са смакам, гучна, у стылі Петронія і У. Караткевіча)*

Пункт 1. Алкаголь

Аператыў або разгонная чарка (кожнаму госцю па бутэльцы).

Старапольская гарэлка

Украінскі спатыкач

Трыс дзівінтрыс – тройчы дзевяць, гарэлка на дваццаці сямі травах, рэцэпт якой застаўся толькі ў беларусаў як спадчына ад Вялікага княства Літоўскага (ВкЛ).

Стаўны мёд, або медавуха (для хворых або паганых, заўсёды ж не п'е або хворы, або падла).

Звяздар.

Пункт 2. Закусь

Вялізны гусь з бруснічным варэннем;
Індыковая ножка з яблыкамі;
Салёныя грыбы (рыжыкі і баравікі);
Шынка дзікага вепрука і смажаніна з мядзведзя;
Ласіныя губы ў падсаложаным воцаце;
Халодныя пірагі з гусінай пячонкай;
Парасяты з хрэнам
Смажаная дзікая качка і запечаныя ў баране лебедзі;
Бліны з мачанкаю;
Надзвычайныя штонікі з маслам (налиснікі).

Гэта табе не чарка і скварка ў якасці ідэала.

Бялянка. Пане Францыск, як Вы ацэньваеце наш фуршэт?

Скарына. Ой (*з усмешкай*). Я не магу.

Блазан. Не можа толькі цнатлівая дзеўка, ды і тая хутка згаджаецца.

Бялянка. Дазвольце пайсці ў карчму пракантраляваць працэс.

Скарына. Ідзі, ідзі. *(энергічна)* А, спецыялісты па піяру і брэндам. Добра!

Блазан. Часу на рэверансы няма. Давайце паслухаем, што зроблена. Пройдземся перш за ўсё па канкрэтных раздзелах праграмы.

Звяздар. Перш за ўсё мы удакладнілі адметны жыццяпіс або біяграфію вашай персоны. У ім павінна быць загадка, таямніца, паболей блытаніны, супярэчнасцей, што садзейнічае з'яўленню міфаў і самых разнастайных інтэрпрэтацый. .

Таму мы ўвялі некалькі апорных пунктаў, звязаных з вялікімі гарадамі і краінамі, якія былі наведаны панам, – Полацак, Кракаў, Познань, Вільня, Падуя, Нюрнберг, Кралявец-Кёнігсберг, Ліён, Вялікае княства, Рэч Паспалітая, Нямеччына, Італія, Францыя. Усюды быў наш герой, усюды пакінуў сляды – значныя, прыкметныя, велічныя, якія не зніклі ні ў часе, ні ў прасторы, ні ў памяці.

Скарына. Мяне ў першую чаргу цікавіць родны горад, бо па пратаколу першым да мяне павінен завітаць мой бацька.

Звяздар. Правільна! Мы пра гэта думалі.

Скарына. Але ен мяне не пазнае!

Звяздар. Ен амаль што сляпы. Таму спачатку пра Полацак. Асаблівую ўвагу надаць гісторыі горада: Сафія, Еўфрасіння Полацкая, Рагвалод, манастыры, крыж святой апякункі, сувязь з Еўропай і Візантыяй.

Блазан. І пан павінен ганарыцца, што нарадзіўся і жыў у Полацку, гэта цэнтр рамесніцтва, гандлю, культуры, кнігі, мастацтва.

Звяздар. Полацк як горад еўрапейскі, купецкі. Адзіны еўрапейскі рынак, мы тады былі членамі ЕС, аб чым толькі марацъ цяперашнія *мечтатели.* Купецтва немажліва без ведання замежных моў. Малады Скарына дапамагаў бацьку гандляваць. Усё гэта дазваляла з юнацкіх гадоў вандраваць па Еўропе, вучыцца ў любым універсітэце. Менавіта там, у еўрапейскіх універсітэцкіх гарадах, сустрэўся наш герой з тымі, хто стане славай навукі і цывілізацыі Еўропы.

Блазан. Скарыну памятае Кракаўскі універсітэт, і Падуя, якія засталіся здзіўленымі розумам і ведамі выхадца з далёкіх дзікіх варварскіх краін. А давай падумаем, з чаго складаецца імідж навучальнай установы, , вядомасць і слава, нарэшце?

Скарына. З бібліятэк і кніжных сховішчаў, дзе спачываюць фаліянты ў драўляна-пергаментных вокладках? Са старажытных сценаў, што перажылі стагоддзі і былі сведкамі векавой эвалюцыі чалавецтва?

Блазан. Ці, наадварот, з ультрасучасных карпусоў са шкла і бетону, начыненых навейшай электронікай, лазерамі, камп'ютарамі?

Звяздар. А можа, славу ўніверсітэту прыносяць сівыя акадэмікі і прафесары (у мантыях і без іх), пра якіх складзена так багата вясёлых гісторый і анекдотаў? Хто яго ведае! Відаць, і з першага, і з другога, і з трэцяга. Але ў першую чаргу сапраўдную славу Alma Mater прыносяць яе выпускнікі.

Блазан. Памятай Ты атрымаў дыплом у італійскім горадзе Падуя. У сусветна вядомым універсітэце, бо ў ім вучыліся тыя, хто спыніў Сонца і прымусіў круціцца Зямлю.

Скарына Галілео Галілей!

Звяздар. А потым разам Зямлю і Сонца адправіў у сусветны кругабег.

Скарына Мікалай Капернік!

Звяздар. Менавіта ў Падуі атрымаў пасведчанне доктара Францыск Скарына, які вырашае несці сонца асветы людзям паспалітым.

Скарына. (*ківае галавою*) Так, так… (задумёна глядзіць удалечыню).

Блазан. Вось чаму іх імёны з любоўю, гонарам і пашанай згадваюць і ў самой Італіі, і ў Польшчы, і ў Расіі з Украінай – гэта значыць ва ўсім свеце. У зале гонару Падуанскага ўніверсітэта, сярод фрэсак самых славутых людзей ёсць фрэска Францыска Скарыны.

**З'ява 3**

*(У старажытнай зале універсітэта)*

1 артыст. *(асвятляецца)* Ваши превосходительства, господа ученые! Причина созыва Ваших превосходительств такова: прибыл некий весьма ученый бедный молодой человек, доктор искусств, родом из очень отдаленных стран, возможно, за четыре тысячи миль и более от этого славного города, для того, чтобы увеличить славу и

блеск Падуи, а также процветающего собрания философов гимназии и святой нашей Коллегии. Он обратился к Коллегии с просьбой разрешить ему в качестве дара и особой милости быть допущенным к экзамену по медицине при этой святой Коллегии. Если, Ваши превосходительства, позволите, то представлю его самого. Молодой человек и вышеупомянутый доктор носит имя господина Франциска, сына покойного Луки Скорины из Полоцка, русин.

2 артыст. Господа ученые. Вы слушали этого бедного юношу. Если кто-либо хотел бы что-нибудь сказать, пусть встанет и скажет, дополнит его слова.

3 артыст. Господин магистр Франциск, сын покойного господина Луки Скорины из Полоцка, русин, на предложенные ему утром этого дня вопросы по медицине блестяще ответил по памяти и отклонил предъявленные ему возражения, отлично аргументируя, он проявил себя наилучшим образом. В связи с этим всеми учеными, там присутствовавшими, с общего согласия он был оценен как подготовленный и достойный быть допущенным к особому экзамену по медицине. Таким образом, он был заслуженно допущен к этому экзамену. Промоторами были господин магистр Франциск де Эсте, господин магистр Иероним а Мулло, господин магистр Варфоломей Баризон и господин магистр Иероним де Урбино.

4 артыст. Он проявил себя столь славно и достойно во время этого своего строгого экзамена, когда излагал ответы на заданные ему вопросы и когда опровергал предложенные ему доказательства, что получил единодушное одобрение всех присутствующих ученых без исключения, и было признано, что он имеет достаточные знания в области медицины.

А посему Ученый совет в установленном порядке провозглашает тебя, Францыск Скорина из Полоцка – доктором медицинских наук и вручает знаки медицинского достоинства.

**З’ява 4**

Звяздар. *(сцэна асвятляецца поўнасцю)* У чарговы раз вернемся да нашых баранаў.

Скарына. Што?

Звяздар. Трэба працягнуць работу у напісанні творчай біяграфіі і далейшай распрацоўцы іміджу, зрабіць яго (імідж!) і яе (біяграфію!) дасканалай.

Блазан. Заўсёды так робіцца: Хрыстос здзяйсняе сваё жыццё, а Іўда піша ягоную біяграфію.

Скарына. Яшчэ раз нагадваю – сачы за сваёй мовай, бо Умети язык свой справовати, от него же все злые и добрые речи походят. Паглядзі, услухайся, як хораша гучыць старабеларускае слова.

Звяздар. Ооо! Да з вамі адбываюцца пэуныя змены. Вось што значыць атрымаць дыплом за мяжой. Перад рашаючым сходам акцыянераў мы павінны выпрацаваць генеральную лінію, бо перад намі два асноўныя напрамкі нашай будучай дзейнасці. І менавіта сам пан Францыск вырашыць, якім шляхам ісці яму, а гэта значыць і вам, дарагія нашчадкі *(звяртаецца да залы)*.

Блазан. Першая лінія – традыцыйна-класічная для тагачаснага разумнага, адукаванага чалавека, які валодае ўсімі мовамі і ведамі Еўропы і мае традыцыі і схільнасці ў сямейным выхаванні. Менавіта да яе схіляў сына Лука Скарына.

Бялянка. Купец з Полацку Лука Скарына.

Лука Скарына. (*натхнёна і пераканаўча*) Купец – гэта аснова грамадства, гэта цэнтр гаспадарчага і духоўнага жыцця горада і дзяржавы. Скажыце, хто члены гарадскога Савета Полацка і ўсіх прыкметных гарадоў Княства і Еўропы?

Артысты *(разам)* Купцы!

Лука Скарына. Хто бурмістры самых значных местаў?

Артысты *(разам)* Купцы, самыя значныя купцы.

Лука Скарына. Хто праводзіць падатковую, асноўную ў жыцці гарадоў, палітыку?

Артысты *(разам)* Купцы! Самыя багатыя людзі места.

Лука Скарына. У каго ў руках мясцовае і дзяржаўнае заканадаўства, суд, выканаўчая ўлада?

Артысты *(разам)* У купцоў!

Лука Скарына. Хто будуе тэатры, мастацкія галерэі, па заказу каго малююць у Еўропе карціны, ставяць спектаклі, узводзяць помнікі, пішуць вершы і п’есы?

Артысты *(разам)* Купцы!

Лука Скарына. Ласкі каго імкнуцца здабыць і паэты, і мастакі, і акторы, і скульптары, і куртызанкі, і вучоныя?

Артысты. Купцоў, прадпрымальнікаў, камерсантаў.

Лука Скарына. Без значнага асабістага багацця нічога не здабудзеш. Ды і навука немажлівая без спонсараў. Вунь усе рэктары навучальных устаноў з ліслівай усмешкай і паклонам працягваюць руку да мецэнатаў за дапамогай. Згадай *(звяртаецца да сына)*, што цябе чакала б без бацькоўскай падтрымкі: бадзяўся б з вагантамі або галіардамі па Еўрапейскіх універсітэтах, шукаючы, дзе меншая плата

ды болей вольнасці. Бо без грошаў твае сябры наймаліся на працу, былі рэпетытарамі, хатнімі настаўнікамі, а студэнты, нібы дзеці, шасталі па сялянскіх агародах. А згадай экзамен у Падуі. Колькі грошай патрабавала гэтая вялікая справа? Хай хто-небудзь згадае.

1 артыст. Пашыць адзенне ўсім, хто будзе ўдзельнічаць у гэтым працэсе;

2 артыст. Падарыць ім пярсцёнкі з золата;

3 артыст. Зрабіць шыкоўны банкет.

Блазан (*сабе самому*). Не ведаю пра першыя два палажэнні, цікава, якія яны ў наш час, але галоўная частка кожнай абароны цяпер – урачысты банкет.

Звяздар. І у тыя часы было дзеля чаго ісці на падобныя ахвяры, бо доктар медыцыны пераходзіў у вышэйшае саслоўе грамадства: ён не плаціць падаткаў, для яго існуе асобны суд, ён можа прысутнічаць на пасяджэнні ўрада. Таму ёсць не толькі маральнае задавальненне, але і рэальная матэрыяльная падтрымка.

Лука Скарына (*не зважае на маналог Блазна і як бы працягвае свой без перастанку*). Навука цябе ніколі не зробіць багатым і незалежным. Ад навукі, як і ад сельскай гаспадаркі, можна толькі кілу (грыжу) нажыць. Дзе ты бачыў вучонага багатага? Без асабістага багацця нічога не бывае, і ўся культура пабудаваная на мецэнацтве і дабрачыннасці.

Блазан. Венецыю і Геную пабудавалі распусныя купцы, стомленыя ад гвалту і сексу.

Лука Скарына. Таму, Францішак, кідай свае юнацкія захапленні і займіся справай…

Скарына. Але герцаг Альбрэхт хоча ўзяць мяне прафесарам у новы Кёнігсберскі ўніверсітэт.

Лука Скарына. І што з таго? Ізноў ад нейкага залежаць, ад ласкі рэктарскай: сёння цябе мілуюць, а заўтра вылеціш са сваімі нікому непатрэбнымі лекцыямі і культуральнымі ідэямі. Таму багацей, уздымайся на ногі, станавіся свабодным і незалежным, а потым займайся сваёй навукай і культурай, бо без скарба, без сродкаў ты не станеш Мецэнатам, нічога не здзейсніш з задуманага. Павер, сыне, я бачыў многае ў жыцці. Таму і хачу, каб ты ўзяўся за справы нашай фірмы-кампаніі, што пад тваім кіраўніцтвам стане адной з самых магутных у Еўропе Мы будзем дзейнічаць, паміж Усходам і Захадам, зробім філіялы і ў Кароне, і ў Княстве, і ў Нямеччыне, Італіі. Будзем працягваць свой гандаль, але на сусветным узроўні. Ды і ты сам

купляў у Германіі сукно, якое з поспехам прадаў у Масковіі. Цяпер з тваім вопытам і сувязямі ты праз некалькі гадоў разбагацееш.

Скарына. Так, бацька, так. Я ўжо пасля Падуі працягваў тваю справу. Быў я і ў Нямеччыне, і ў Італіі, і ў Рэчы Паспалітай, і ў Масковіі, бачыў многае. Найбольш мяне узрушыла Францыя. І не толькі таму, што закупіў славутае ліёнскае сукно, мяне ўразіла іншае: кнігі – вялікія, фаліянты, маленькія, прыгожыя і не вельмі кідкія, тоўстыя і тонкія, для пачаткоўцаў і вучоных, для вернікаў і тэолагаў, для навукоўцаў і школяроў. Для іх патрэб узніклі папяровыя фабрыкі, з'явіліся буйныя друкарні з магутным прыстасаваннем. Кнігі прадаваліся па ўсёй Еўропе. І тады я возрѣвновалъ к памяти продкаў, з сумам падумаў аб родным краі, падсвядома ці Боскай рукою скіраваны да велічнай справы – даць кнігу друкаваную беларусам і ўсім усходнім славянам. Але як спалучыць гэта з маімі абавязкамі перад табой, бацька, перад блізкімі і роднымі, перад сваімі дзецьмі. Што абраць – шлях заможнага купца ці складаную і няўдзячную дарогу служэння Радзіме і народу. Я абіраю апошняе.

Лука Скарына. Добра, як хочаш... У мяне засталіся грошы, імя, сувязі, накіруй іх на сваю справу, бо грошы бацькавы не смецце. Бывай, жыві, як хочаш. Але паслухай апошняе. У жыцці дбай лепш пра сябе. Што той народ, што тыя людзі. Жыў бы ты для сябе і для сям'і, як твой брат, як я, як твой дзед, як усе добрыя людзі, а мне было б спакойней у магіле. *(сыходзіць да канца дзеяння).*

*Паціху пачынае гучаць песня В. Шалкевіча "Сярэднявечча".*

Сярэднявечча.
Спалоханыя думкі, страціўшы гняздо,
Ляцяць у твой негасцінны, змрочны вырай.
Там біскуп сёння асвячае новы храм.
Ad majorem Dei gloriam…
Раз'юшаны арган
Плюецца вогненным акордам
Страшных нотаў.
Сярэднявечча… Што будзе потым?

Яшчэ пакуль што ў калысках спяць
Капернікі, Скарыны, Магеланы
Салодкім сном.
Але не сон – Нябесны Князь
Насенне сее ўжо… І хутка зашумяць

Святыя дрэвы.
З іх Калюмб сабе збудуе каравэллы.

Крый і ратуй вас Ўсемагутны Бог
І зберажы бацькоўская малітва.
На распачатку ўсіх нязведаных дарог
Крый і ратуй вас Бог!
Бяспечна прывядзі праз ноч,
Праз воду і агонь, нягоды, буры, бітвы.
Сярэднявечча…

Дай дакрануцца да тваёй рукі,
Дай ўслухацца ў скрываўленыя словы
Тваіх паданняў.
Тры сталёвыя цвікі сядзяць ў маёй душы
Да скону, да труны.
Навечна гэтымі цвікамі я прыбіты да цябе,
Сярэднявечча…

Спалоханыя думкі, страціўшы гняздо,
Ляцяць у твой негасцінны змрочны вырай.
Там біскуп сёння асвячае новы храм…

## З’ява 5

.

Блазан. А щсё ж я на месцы пана зрабіщся бы купцом

Бялянка. Піліп Аурэол Тэафраст Бомбаст фон Гогенгейм – філосаф, урач, натураліст, прафесар медыцыны Базельскага ўніверсітэта.

Скарына. Не можа быць! Не веру вушам сваім – сам Парацэльсус, сам Парацэльс. Завіце, клічце хутчэй сюды…

Звяздар. (*Працягвае ўрачыста*) У якасці лекара высокі госць наведаў амаль усе еўрапейскія краіны, дзе акрамя ўрачэбнай дзейнасці займаўся прапагандай сваіх рэфармацкіх поглядаў у навуцы лекавання. Паміж 1520 і 1525 гадамі быў у Вільні, дзе як рэфарматар медыцыны вёў дыспут з прыхільнікамі традыцыйнага лекавання, які прайграў.

Блазан. Можа, якраз таму, што ягоным супернікам быў доктар у навуках лекарскіх Францыск Скарына.

Звяздар. Шматлікія працы па медыцыне, хіміі, батаніцы, натурфіласофіі, тэасофіі зрабілі яго найбуйнейшым натурфілосафам Еўропы, а значыць і ўсяго свету.

Скарына. Парацэльсус, Парацэльс… Прафесар універсітэта. Ды ён і сам ёсць сапраўдны ўніверсітэт. Гэта жывая легенда (*усхвалявана*). Клічце, завіце. Не, не трэба, я сам пайду насустрач. (*Ідзе, прыцягвае руку, схіляецца ў пашане*)

Парацэльс. Вандруючы па далёкіх, не вельмі цывілізаваных краінах, я не мог не аддаць даніну павагі і зафіксаваць сваю пашаноту да самага таленавітага в лекарских науках доктора – Францыска Скарыну. Менавіта Ваша красамоўства адыграла рашаючую ролю ў маім паражэнні на тым славутым дыспуце ў Вільні, калі прыхільнікі Галена, перамаглі мяне.

Скарына. Прашу прабачэння ў яснавяльможнага пана, што мы так няласкава абышліся з госцем. У цэлым мы вельмі прыхільна сустракаем чужынцаў, а нават падчас і празмерна, асабліва ўсялякую набрыдзь, якая потым пачынае нас вучыць жыць

Блазан. Замучыла праклятая памяркоўнасць, так званая беларуская талерантнасць, за якой вельмі часта хаваецца звычайная баязлівасць.

Скарына. Зразумела, я не маю на ўвазе пана. Тым болей, што і сам цяпер не вельмі малюся Галену, гэтаму славутаму лекару старажытнасці.

Парацэльс. Прыемна, прыемна слухаць. Але дазвольце запытаць ці знаемы вашы глыбокапаважаныя калегі, з асновамі маёй філасофіі?

Блазан. Шаноўны пане прафесар. У гэтых дзікунскіх краях добра вядома Ваша філасофія быцця, нават я магу згадаць яе асноўныя тэзісы. Прырода – гэта жывое непадзельнае, што аб'ядноўвае ў сабе рэальны, матэрыяльны сусвет і чалавека і прасякнута духоўнай сілай, што зліваецца ў дзіўную сусветную душу.

Звяздар. Прызначэнне чалавека – пазнаць сябе. А затым прыступіць да пазнання прыроды, аваладвання яе сіламі і магутнасцю.

Парацэльс. Абсалютна правільна. Я чую сваю філасофію, і дзе, у мядзвежым краі, дзе і кнігі не ўбачыш!

Блазан. Што там кнігі? Хутка ў нас і не такое станецца. Мы ж цэнтр Еўропы. Мы будзем "впереди планеты всей", паказваць іншым, якім шляхам ісці.

Парацэльс. Згодзен з вамі, шаноўны. Нельга ўвесь час заставацца ў мінулым, з Галенам, Асклепіем. Я лічу, што ўрач павінен лекаваць дваяка, і ў гэтым доктар Скарына мяне падтрымае, лячыць аднначасова і дух, душу, і цела. Бо чалавек – спалучэнне рэальнага, фізічнага і духоўнага, і каб яго вылечыць трэба знайсці адпаведныя сродкі менавіта ў прыродзе.

Звяздар. Які вы разумны! Як многа ведаеце. Ці не таму Аляксандр Герцэн назваў пана *первым профессором химии от сотворения мира.*

Парацэльс. Не маю гонару ведаць вашага знаёмца, але сказана правільна. Я не толькі вывучыў лекавыя здольнасці травы і мінеральных крыніц, але і растлумачыў іх сутнасць, прычыны ўздзеяння на чалавека. Я заснаваў *ятрахімію*, унёс выключны ўклад у развіццё фармакалогіі. Таму прапаную пану супрацоўніцтва.

Скарына. У чым? Філасофіі ці фармакалогіі?

Парацэльс. У аптэкарскай справе.

Звяздар. Згаджайцеся. Прыбыткі ў наш час могуць быць толькі ад лякарстваў.

Блазан. З паняццяў філасофіі жыцця люд цікавіць толькі апошняя частка – жыць любой цаной і, пажадана, без усялякай філасофіі. Менавіта таму з кожным дзесяцігоддзем будуць павялічвацца сродкі, што ўкладваюцца ў фармакалогію, без якой не будзе ні спорта, ні sexa, ні самога жыцця. А па прыбыткам яна будзе ісці адразу за гандлем збраяй і наркотыкамі, хаця апошняе таксама ёсць фармакалогія.

Парацэльс. І цяпер ты маеш рацыю, *(Да Скарыны).* Не ведаючы нікога ў Вялікім Княстве, тым болей у Масковіі, хто хоць быў бы крыху блізкі пану па розуме і ведах, дасведчанасці ў лекарскіх справах і гандлёвай дзейнасці, прапаную арганізаваць канцэсію па стварэнню серыі аптэк, з дапамогай якіх мы будзем распаўсюджваць лекі ад рожы, воласа, трасцы, францаў, і новага нямецкага мікроба. Мы зможам з панам пакласці пачатак еўрапейскай сучаснай медыцыны і фармакалогіі. Вы станеце багатымі і ўплывовымі. Усе схіляцца перад Вамі, бо людзі баяцца смерці, а Вы дадзіце ім надзею. Я добра ведаю вашу натуру: у вашай асобе арганічна спалучаны і навуковец, і купец. Зробім лабараторыю з самым сучасным абсталяваннем, наладзім вытворчасць. Рынак тут, у Княстве, у Масковіі велізарны. Акрамя таго, мы зробім людзей шчаслівымі.

Блазан. Уцюхваючы ім антідэпрэсанты ці віягру Але толькі нашага беларускага вырабніцтва!

Скарына. Я вельмі ўдзячны пану за прапанову, але ад лячэння цела я апошні час больш схіляюсь да лячэння душы. Асветліць душы людзей паспалітых святлом ведаў – вось мая справа на сённяшні дзень.

Парацэльс. *(Да Скарыны).* Думайце, пане. Падуя і Еўропа шле Вам вітанне. (*Пауза*) Да сустрэчы. Чакаю адказу, а я пакуль паспрабую падобнае прапанаваць Варшаве. *(Выходзіць) Гучыць музыка.*

**З'ява 6**

Звяздар. Што вы нарабілі! Каб вы прынялі яго прапанову то праз стагоддзі Беларусь стала б цэнтрам фармакалогіі і медыцыны.

Скарына. (*задумваецца*) Пасля. (*на адбліччы цень трывогі*)

Блазан. Добра. Ёсць яшчэ прадстаўнікі ад розных фірмаў?

Скарына.

Не толико жив ест человек хлебом
Или лекарством но боле всяким словом.

*(да Блазана).* На сёння камерсантаў, прадпрымальнікаў болей не пускай. Хачу філосафаў, мастакоў і літаратараў, сваіх даўніх калег і аднадумцаў.

Бялянка. Якія ў Вас, пане, сябры. Да вас Марцін Лютар.

Звяздар. Марцін Лютар – доктар багаслоўя ў Вітэнбергскім універсітэце, заснавальнік немецкага пратэстантызму – лютэранства. Сустракаўся са Скарынам у Вітэнбергу ў 1523 годзе. Беларус настолькі ўразіў Лютэра сваімі здольнасцямі, што той прыняў яго за чарнакніжніка, які выконвае адказную місію яго непрыяцеляў-каталікоў.

Блазан. Працытую некалькі афарызмаў Лютэра:

Чым меней слоў, тым лепшая малітва.

Прапаведнік уздымаецца на амбон, адкрывае рот і перастае слухаць.

Хто не любіць віна, жанчын і песняў, той дурнем і памрэ.

Звяздар. Лютэр перакуліў духоўны свет Еўропы: ён стварыў ідэалогію і рэлігію для буржуазіі, увесь сучасны капіталістычны свет – дзіця Лютэра.

*З'яўляецца Лютар*

Лютар. Шаноўны калега. Мы займаемся з Вамі адзінай велічнай справай – імкнемся даць сваім народам Слова Божае на роднай мове. Зыходзячы з розных пабуджэнняў, не будзем падманваць адзін аднаго. Наогул, я хачу, каб паміж намі не было непаразуменняў, бо вялікая сіла натхняе нас на велічныя справы.

Скарына. Безумоўна. І я так думаю.

Лютар. Цудоўна. Таму адкрыта прапаную вам стаць адэптам маёй ідэі і, паколькі Вы былі і ў Кёнігсбергу, у князя Альбрэхта, далучыцца да майго вучэння – пратэстантызму. Ды і Вашы блізкія суседзі, у прыватнасці Мажвідас у летувісаў, пойдзе падобным шляхам.

Блазан. Прыбалтыка заўсёды была блізкая да немцаў, і ад гэтага весь час мае свой гешэфт.

Лютар. Слухай, давай створым новую рэлігію, бо на што пан можа яшчэ паставіць. Візантыя загіне. Праваславіе ператворыцца ў сярэднявечную традыцыю. А шаноўны пан так і застанецца местачковым аўтарытэтам, ды і то не на вельмі працяглы час, бо тут аўтарытэты доўга не існуюць. Таму жыццёва неабходна спалучыць магутную энергію царкоўнай традыцыі з капіталістычнымі зменамі у грамадстве на Захадзе. Пан сам зведаў гэта на сабе, ён здолеў паяднаць неспалучальнае, калі вучыуся ў Кракаве і Падуі, і ў той жа час працаваў садоўнікам у чэшскага караля.

Блазан. Хі-хі, садоўнік…

Лютар. Садоўнік – гэта не гі-гі. Адам быў першым садоўнікам у Эдэме Бога. Таму і цяпер садоўнік працуе на каленях. (*Да Скарыны)* Пан годна і велічна прадставіў сваю Айчыну ў краінах Еўропы, садзейнічаў у немалой ступені выхаду Вялікага княства Літоўскага на еўрапейскую арэну. Да пана не было ва ўсходніх славянаў такой магутнай фігуры.

Звяздар. А вось многія потым будуць сцвярджаць, што Скарына цалкам адносіцца да сярэднявечча, а таму ніяк не можа лічыцца гуманістам

Блазан. Бо ніхто не можа паверыць, асабліва браты-славяне, што такой велічы можа дасягнуць беларус. Хто можа ўявіць беларуса з кнігай?! Для яго адпаведныя толькі лапці, світка, андарак, а замест узвышаных маналогаў і дыспутаў – п'яныя дрындушкі з прытоптваннем, што называюць нейкім фальклорам.

Звяздар. Пазбавіцца, раз і назаўсёды праклятага беларускага, якое ўвайшло ў нашу кроў і ў нашы гены, што на нашым родным сметніку ніколі нічога не было і не будзе. Усё толькі ў людзей Еўропы,

а ў нас – адны балоты і каўтун у валасах ды гузы на руках ад спрадвечнай працы.

Блазан. А беларусы ад гэтай працы нічога не маюць. Толькі лапці ды бульбу. А, кстати, лапти воду пропускают?

Звяздар. А савецкія вучоныя наогул назавуць Скарыну манахам, хаця ў адрозненне ад пана Лютэра, ён ім ніколі не быў.

Лютар. І я гавару пра гэта. Трэці Рым, г. зн. Масковія цябе не падтрымлівае і не падтрымае ніколі, бо на гэта ёсць шэраг прычынаў. Ты не іхні, гэта яны добра адчуваюць, і не толькі па нараджэнню ці згодна канфесіі. Прычына значна глыбей – у адрозненні культур, адметнасці традыцый.

Блазан. Якія там традыцыі?! Калі праз 150 гадоў другі вялікі беларус, Сімяон Полацкі, прыехаў у Маскву і адкрыў сваю ўласную друкарню, заўважце, толькі адну, то тым самым ён павялічыў роўна ўдвая колькасць друкарняў у Масковіі.

Лютар. Так-так. У Масковіі пануе культ кнігі рукапіснай. Перапісчык адносіцца да яе стварэння як да святой, боскай, сакральнай справы і падзвіжніцкай дзейнасці. Ён павінен свядома прыніжаць сваю асобу. Кнігі ж пана прызначаны не для манастырска-царкоўнага карыстання, а пераважна для індывідуальнага чытача.

Блазан. Іншымі словамі, друкуючы кнігі для агульнага карыстання, пан будзе рабіць звычайную “папсу” у вачах Праваслаўнай царквы.

Лютар. Вашыя кнігі становяцца індывідуальным пасрэднікам паміж Богам і чалавекам. Вы пазбаўляеце кнігі іх містычнага статуса, у які свята верыць дурны расейскі мужык. Ваш выразны індывідуалізм, арыентацыя на асобу, а не на грамаду, абавязкова выкліча непрыняцце ў суседняй дзяржаве. Там цэняцца зусім іншыя вартасці – падпарадкаванне асабістага агульнаму, *ціхасць, спакойнасць, плаўнасць, сузіральнасць.*

Скарына. Але ж я імкнуўся зрабіць іх адпаведнымі ўсходняй канфесіі.

Лютар. Але вы не ўлічылі галоўнага – недавер і варожасць да друкаванай кнігі, найперш будзе сярод царкоўных начальнікаў. Вы адыміце у іх хлеб. Яны знішчаць вашыя надрукаваныя кнігі

Звяздар. Гэта пазней зразумее Іван Фёдараў, другі вялікі беларус, які будзе вучыць маскавітаў друкаваць кнігі і адначасова даказваць богоугодность друкаванага слова, спасылацца на аўтарытэт мітрапаліта і самога цара . Ён зразумее тваю памылку, а таму свае выданні адрасуе царкве для калектыўнага карыстання.

Лютар. Таму ў вас няма выбару. Шаноўны Скарына, далучайцеся хутшэй да Рэфармацыі!

Блазан. (*да Скарыны*) Шаноўны пане, лепей згаджайцеся. Усё роўна кнігі Вашы нідзе не прызнаюць. Праваслаўная царква будзе прыпісваць вам ерэтычнае сваяцтва з пратэстантызмам Лютэра, а каталікі ніколі не даруюць русину из Полоцка, што ён першы за іх нешта надрукаваў. Для касцёла застанешся навекі схізматыкам.

Скарына. Я імкнуўся аб'яднаць хрысціян усіх канфесій: Церков Христова – гэта мати всех хрестиан. Гэта будзе актуальным і праз 500 гадоў. І таму я буду заклікаць хрысціян аб'яднацца перад нашэсцем новай рэлігіі, якая з Усходу больш паўтысячагоддзя як пагражае Еўропе.

Блазан. А што ёй ужо пагражаць, калі ў цяперашняй Францыі сярод нованароджаных самае папулярнае імя – Махмуд. Па Еўропе, у хуткім часе, белага чалавевека будуць шукаць днём з агнём. Цяпер заваёўваюць краіны іншымі спосабамі.

Скарына. А гэтага трэба пазбегнуть. (*Лютару*) Таму я пакуль не прыму вашай прапановы.

Лютар. Я ніколі не быў песімістам. Калі мне скажуць, што заўтра будзе канец свету, то яшчэ сёння я пасаджу дрэва. Няхай пан падумае над маімі прапановамі. Яны перспектыўныя ў адрозненне ад панскіх. Пераходзь у наш лагер, я буду чакаць (*выходзіць*).

**З'ява 7**

Звяздар. Дарэмна! А я вось не сумняваюся, што калі б пан Скарына зараз пагадзіўся з Лютарам, то ў Кёнігсбергу ўн пачаў бы выдаваць першыя беларускія пратэстанцкія кніжкі і стаў бы пачынальнікам беларускай Рэфармацыі. Тады Беларусь назауседы сталася б часткай класічнай Еўропы, і мы бы навечна апынуліся б у *“загнивающем капитализме”*.

Скарына. Сапраўды, трэба выдаваць царкоўныя кнігі на маёй роднай мове. Хай кожны з людзей паспалітых будзе мець магчымасць успрыняць словы Боскія. І першай кнігай, якую я выдам, будзе славуты “Псалтыр”. Гэта незвычайная кніга, і ўсе па ёй будуць вучыцца чытаць. Псалтыр – гэта *лекарство душевное*, магічны сродак лячэння і ачышчэння чалавека, папярэджанне розных няшчасцяў. Кнігу чытаюць над цяжкахворым, калі лічаць, што чалавек пакутуе ад нячыстай сілы. Чыталі яе і над нябожчыкам. Па ёй гадалі, варажылі. Вось якую ролю адыгрывала кніга ў свядомасці нашай. А потым я

паспрабую перакласці  на старабеларускую мову ўсе ці амаль усе кнігі Бібліі.

<u>Блазан.</u> Ты, пэўна, звар'яцеў. Колькі можа зрабіць адзін чалавек.!!!

<u>Звяздар.</u> Тое, што Вы зрабілі, цяжка спасцігнуць нашчадкам. Можа хіба з дапамогай метафары. Кнігадрукаванне зрабіла такі ўплыу на еўрапейскую культуру, якое ў нашы часы зрабіла з'яўленне асабістых персанальных кампутараў.

<u>Блазан.</u> Але толькі ўявіце сабе. Першы у свеце Беларускі кампутар, дзеля якога усе асноўныя і устаноўчыя  праграмы, дзякуючы пану Скарыне, распрацаваны на беларускай мове.

<u>Звяздар.</u> А можа сапраўды ўсе маюць рацыю, і навошта пану пісаць па-беларуску і выдаваць Святое Пісанне на мове люду паспалітага, які стаўся для пана фетышам. А гэта вельмі і вельмі небяспечна з розных пунктаў гледжання.

<u>Блазан.</u> Давайце будзем выдаваць Біблію на латыні і яе будуць больш купляць. Гэта самае галоўнае  – купляць. Ну нашто рабіць тлумачэнні і пераклады. Для каго? Для чаго? Гэта толькі марнаванне часу і грошаў.

<u>Звяздар.</u> Паглядзі, як твае сучаснікі выходзяць з гэтай сітуацыі. Так, славуты ва ўсім свеце беларус Мікола Гусоўскі, выконваючы заказ для Папы Льва X, напісаў паэму, усім вядомую цяпер як "Песня пра зубра". Дык вось ён і распавёў усяму цывілізацыйнаму свету,  пра прыроду, культуру і гісторыю Беларусі і Літвы, і паэма назаўсёды засталася ў духоўнай скарбонцы еўрапейскай мудрасці. Або Ян Вісліцкі, які напісаў Прускую вайну, што ўвесь свет чытае пра Грунвальдскую бітву  на латыні. Дык можа, давайце будзем выдаваць Біблію на боскіх мовах, а белетрыстыку – на іншых. Тым болей, да нас ідзе вялікі Эразм з Ратэрдама.

<u>Бялянка</u>. Нідэрландскі мысліель Эразм Ратэрдамскі  Дэзідэры.

<u>Звяздар.</u> <u>Эразм Ратэрдамскі, гуманіст, пісьменнік, багаслоў, прадстаўнік Паўночнага Адраджэння, які жыў, аднак, па ўсёй Еўропе. Асабліва выключнай папулярнасцю карысталася ягоная "Пахвала дурасці".</u>

<u>Звяздар.</u> Эразм дарэчы не мог пісаць інакш, як на латыні.

<u>Блазан.</u> Гэта нічога не сведчыць. Ёсць людзі, якім веданне латыні не перашкаджае заставацца асламі. Пахвала дурасці!

<u>Эразм.</u> Шаноўны пане Францыск! Я рады сустрэцца з аднадумцам у такіх даволі складаных варунках. Чамусьці ўсе мяне ўспрымаюць толькі аўтарам "Хвалы Дурасці", хаця гэты твор з'явіўся

ў значнай ступені выпадкова, у час падарожжа, калі не хацелася думаць аб сур'ёзным, невыпадкова я пісаў яго ў вёсцы. Таму, ведаючы пана, я не сумняваюся, што ён будзе выдаваць не зборнікі анекдотаў, не любоўныя ці рыцарскія раманы, а Кнігу Кнігаў, як і ўсе цывілізаваныя народы…

Скарына. Так, зразумела, Біблію. Як сказаў святы Грыгорый Багаслоў, “святое письмо все науки превышаетъ,”

Эразм. Усе навукі – пустыя і няпоўныя, калі не судносяцца з Богам.

Скарына. Але я прапаную выдаваць Біблію на роднай мове. І тут ніяк не не магу пагадзіцца з вяльможным панам Эразмам, які ніяк не можа пазбыцца латыні. У мове праяўляецца творчая прырода чалавека. А бяз роднай мовы думкі чалавека чужыя, не цэльныя, а ў сувязі з гэтым не можа быць рэалізавана свабода чалавека.

Блазан. Ды мне здаецца, што ў “Пахвале дурасці” пана Эразма адчуваецца хутчэй галандская народная смехавая культура, чым лацінскі розум.

Эразм. Я падтрымліваю найперш Францыска як прыхільніка збліжэння народаў, як прыхільніка філасофіі Хрыста. Менавіта ў Бібліі можна знайсці ўсе адказы на асноўныя пытанні. Гэта адзіная кніга, вартая ўвагі: В сей книзе всее прироженое мудрости зачало и конецъ.

Блазан. А чаму ж тады пан выдаў зборнікі “Прымавак” – кнігу, у якую ўвайшлі выслоўі і прытчы старажытных аўтараў.

Эразм Ратэрдамскі. Чалавека фармуе тое, што ён чытае. А менавіта таму ў працэсе выхавання юнака лепей выкарыстоўваць прыклады з антычнасці і ранняга хрысціянства, чым звяртацца да матэрыялаў сярэднявечных раманаў, і тыранічных казак часоў караля Артура. Але мастацкую літаратуру Вам, можа, яшчэ і ранавата друкаваць. Кнігі маюць сваю долю ў залежнасці ад таго, як іх прымае чытач.

Блазан. Пан мае рацыю. Ім што не дай, піпл усё схавае. Таму ім трэба даваць гумар і плёткі. Вось якія анекдоты я чуў сёння на плошчы. Лічу, што не грэх, смеючыся, да мінулага вяртацца. Нават такім найсур'ёзнейшым людзям, як мы, браткі-беларусы. Над чым смяяліся ў сярэднявеччы? Згадаем толькі Караля Станіслава Радзівіла, князя Нясвіжа, вакол якога кружыла вялікая колькасць самых недарэчных і вясёлых згадак. Менавіта з яго напісаў славутага Мюнхаўзена вядомы ўсім Распэ.

1 артыст. Памятаю аднаго разу, пане каханку, вяду гэта я эскадрон сваіх гусараў у атаку. Тут раптам як лясне проста ў мяне

гарматнае ядро, ды так, што разарвала маё тулава на дзве, не – на чатыры часткі! – распавядаў князь, але, убачыўшы, што нават у падпітых сябрукоў на тварах мільганула ўсмешка недаверу, хуценька звярнуўся да свайго фаварыта, шляхціца Бароўскага:

– Ты ж памятаеш, Барусю?

– Не, не памятаю, – адгукнуўся той, – бо перад гэтым я ўжо быў забіты напавал *(музычная разрадка)*

2 артыст. А вось яшчэ гісторыя. Быў я добраахвотнікам у англійскім войску, пане каханку, што вяло аблогу іспанскай цвярдыні Гібралтара. І быў у мяне чыстай андалузійскай пароды, чорны, як крумкачова крыло, конь. Пачаўся, пане каханку, штурм той крэпасці. Лячу я на сваім скакуне, ажно раптам гарматнае ядро, пушчанае ворагам, разрывае тулава майго каня на дзве паловы. Я ўтрымаўся ў сядле, а ён так разагнаўся, што з той паловай, на якой я сядзеў, проста праз мур пераляцеў, і апынуўся я, пане каханку, першым у той грознай цвярдыні. Ну, а за мной і астатняе войска ўварвалася, здабыўшы Гібралтар канчаткова, – закончыў сваё апаяданне Караль Радзівіл і паглядзеў на прыціхшых слухачоў, што не ведалі, як рэагаваць.

– Усё адпавядае законам прыроды, – падтрымаў свайго гаспадара Бароўскі, – цэлы конь не пераскочыў бы, бо быў цяжкаваты, але палова ўдвая лягчэйшая і хуткасць набрала ўдвая большую.

Прысутныя адразу ж згадзіліся, за што і быў прапанаваны тост *(музычная разрадка).*

3 артыст. Яшчэ цікавейшая аказія. – А вось яшчэ, пане каханку, такое здарэнне меў я ў Адрыятычным моры, – працягваў словаахвотлівы князь. – Спаткаў там на беразе прыгажуню, перад якой устаяць не мог, і, канешне, закахаўся. А тая прыгажуня аказалася сірэнай – паўкабетай, паўрыбай. Ад гэтага кахання нарадзілася ў нас патомства – сто тысяч селядцоў. Што ж тут рабіць з імі? Узяў ды падараваў усіх Бароўскаму. Праўда, Борусь?

Праўда, найяснейшы пане, чыстая праўда, – пацвердзіў той. – Шкада толькі, што не паспелі падрасці, бо ўсе пайшлі на стол. *(музычная разрадка)*

4 артыст. Здараліся цікавыя гісторыі і ў звычайных людзей. Так, калі ў аднаго гаспадара памерла жонка, а затым хутка здохла карова, то ўсе суседзі сталі яго суцяшаць і прапаноўваць не адну кандыдатуру ў спадарожніцы жыцця на выбар. Той слухаў і адказаў: “Вельмі вам удзячны за вашы парады. Але бачу, лепей страціць жонку, чым карову. Бо на месца нябожчыцы падсоўваеце мне капу

дзяўчат, а вось каб хоць адзін прапанаваў жывёліну!” *(музычная разрадка)*

Звяздар. І яшчэ падзея: У сярэднявеччы існаваў такі звычай: калі кагосьці вялі на шыбеніцу, а дзяўчына з натоўпу кідала на яго свой рантух (верхнюю хустку), то асуджанаму даравалі жыццё, вызвалялі і адразу жанілі са збавіцельніцай.

Дык вось, усё так спачатку і адбывалася. Эскартуюць нейкага маладога ды прыгожага злачынца да месца пакарання. У злавеснай працэсіі ідзе і кат, вядомы ўсім Якуб. Вакол – сотні цікаўных, бо тады бясплатна можна было паглядзець толькі два масавыя відовішчы: пакаранне смерцю на плошчы ды пажар.

Раптам з натоўпу выскоквае баба не першай маладосці і кідаецца са сваім рантухом да таго асуджанага малойца. Ён жа, як угледзеў, што за фартуна чакае яго, закрычаў спалохана: “Пане Якубе, хутчэй да шыбеніцы!”. *(музычная разрадка)*

Блазан. І чытаць будуць, і грошы будуць.

Скарына. Дай вам волю, вы ўсё да грошай звядзеце. Адназначна, друкаваць будзем толькі Біблію. Але на роднай мове. Я ўжо бачыў чэшскіх студэнтаў, якія чыталі Біблію па-чэшску. А я зраблю ўсё, каб мае кнігі выйшлі на зразумелай простым людзям мове, і каб яны змаглі яе купіць. Бо рукапісная кніга, прыгожая, але занадта дарагая, схавана за мурамі кляштараў, а таму не трапіла ў рукі людзям паспалітым.

Блазан. Вы можаце заняцца кнігадрукаваннем. І тут адбудзецца спалучэнне купецкай і духоўнай справы.

Эразм. Я лічу пана не прадпрымальнікам і не манахам. Францыск – выдавец, а не друкар, не работнік станка. Ён вучоны, інтэлігент, пісьменнік, перакладчык, ідэаліст, рэдактар, мовавед, літаратар, грамадскі дзеяч, патрыёт і асветнік.

Блазан. (*Пра сябе*) Ён і вышываць умее.

Эразм. І перш за ўсё філосаф. Бо ў наш час самым распаўсюджаным сродкам філасофствавання было каментаванне Бібліі. І Скарына з дапамогай біблейскіх тэкстаў будзе разважаць аб сутнасці чалавека і ягоным жыццёвым прызначэнні. Добра, пан Скарына, будзем выдаваць кнігі на родных мовах!

Скарына. В сей Книзе вси законы и права, имиже люде на земли справоватися имають, пописаны суть. В сей Книзе вси лекаръства душевные и телесные зуполне знайдете. Ту навчение философии добронравное… Ту справа всякого собрания людского и всякого града… Ту научение седми наук вызволеных достаточное.

Хощеши ли умети грамматику… знайдеши в зуполной Бовлии, Псалтыру, чти ее. Пак ли ти ся любить разумети логику… чти книгу светого Иова или Послания светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети риторику… чти книги Саломоновы… Восхощеш ли пак учитися музики, то ест певници, премножество стихов и песней светых по всей книзе сей знайдеши. Любо ли ти ест умети аритметику… четвертыи книги Моисеевы часто чти. Пак ли же имаши пред очима науку геометрию, еже по-руски сказуется землемерение, чти книги Иисуса Наувина. Есть ли астрономии или звездочети – найдеш… во Иисусе Наувине… во книгах Царств… во светом Еувангелии… Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи. Пак ли же вократце сведати хощеши много тысещей лет летописецъ, что книги Паралипомена… Почитай книги Иисуса Сирахова а Притчи Саломоновы… Чтимы ж уставичне светое Еувангелие, а, чтучи е, наследуимы делы нашего избавителя Иисуса Христа…

Все, что видишь глазами и трогаешь руками, менее истинно, чем то, что ты прочитаешь. Небо и земля погибнут, а из слов божественных не погибнет ни единой йоты, ни единого знака и все свершится.

(*Выходзіць са Скарынам).* Гучыць "Магутны Божа".

**З'ява 8**

Блазан. Бачыш, і гэты з глузду з'ехаў.

Звяздар. Як прыгожа. Вось што значыць вялікія людзі.

Блазан. І я быў вялікі. Помню, пасадзілі мяне, пяцігадовага, на каня. І вось я вышэй людзей, вышэй канопляў, на самым небе. І раптам з канопляў выскоквае свіння і кідаецца пад ногі каню. Той спалохаўся, устаў на дыбкі, і я ўпаў на пясок. Таму памятай, як высока ты ні ўзлятаеш, заўсёды кінецца пад ногі свіння – і ты ўжо на зямлі.

Звяздар. Усе мы залежым ад свіней, аслоў, малпаў.

Бялянка. *( урачыста і адначасова іранічна, бо так заўсёды ставяцца да творчых асоб*) І апошні на сёння госць – вольны мастак са слаўнага града Прагі.

Вольны мастак. Сапраўды, я мастак. Вольны. І гэтым ганаруся. Вучань самога Дзюрэра! (*уздымае палец угару*) Я ішоў ягонымі шляхамі. Аднак вялікае вынаходніцтва чалавецтва змяніла мой лёс,

як і долю соцень маіх сяброў-мастакоў. Друкарскі станок Іагана Гутэнберга стварыў фантастычныя ўмовы для развіцця мастацкай графікі і кніжнай ксілаграфіі.

Блазан. Гэта умовы для таго, каб кожны з мастакоў мог ажыццявіць сваю адвечную мару – стаць вядомым, праславіцца, а то і стаць бессмяротным. А яшчэ  каб глупства растыражоўвалася да бясконцасці.

Звяздар. Сапраўды, раней рукапісную кнігу, як ва ўсе часы, упрыгожвалі дарагімі мініяцюрамі. Але для кожнай кнігі трэба было рабіць свае малюнкі, ілюстрацыі. Пакутуеш над кожнай, а потым яе хаваюць ці не заўсёды, і ніхто яе не зможа прачытаць, акрамя магната ці манаха.

Блазан. І мышэй з пацукамі.

Звяздар. Выкарыстанне ў друку гравюры на дрэве дазволіла самім мастакам распаўсюджваць свае творы сотнямі ці нават тысячамі.

Вольны мастак. Я меў гонар быць знаёмым з панам Францыскам у Празе, калі дапамагаў яму ў афармленні кніг. Мы тады дабіліся значнага поспеху, нашы кнігі сталі ўзорам для афармлення падобных. Гэта быў выбух у славянскім кірылічным друкаванні. І таму я прыйшоў, каб аддзячыць пана Скарыну за яго працу, бо сёння ўпершыню я атрымаў ганарар.

Блазан. На жаль, пана Скарыны зараз няма дома.

Бялянка. Ва! А дзе ж ён?

Звяздар. Дзе… ён ужо далека…за шмат вякоў адсюль.

Бялянка. Як?...

Блазан. Так!  Ну чаго стаіш, як ступа. Нясі чаркі. (*Мастаку*) А вось адкажыце мне, шаноўны, чаму жнейкі з зямлі абетаванай на гравюры абуты так, нібы сялянкі з-пад Полацка?. Хіба і на святой зямлі так холадна, як і на Беларусі? Ці то проста мастакі рэзалі малюнкі ў панядзелак?

Вольны мастак. І гэта ўжо ўгледзелі. Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць. А гледзячы на жняцоў на святой зямлі, мы згадвалі і беларускіх, і чэшскіх, і польскіх. Вы звярніце лепш увагу на бляск золата выданняў Скарыны, каляровую гаму, прыгажосць знешняга афармлення. *(ідуць выявы кніг).*

Блазан. Так узнёсла пачаць мог толькі паэт. Хаця каму ў наш час патрэбна цяпер тая паэзія. Усе паэты вар'яты. Нармальны чалавек рыфмаваць не будзе.

Звяздар.

Не копай под другом своим ямы
Сам ввалишься в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенице,
Сам повиснешь на ней
.

Блазан. Беларусь – нацыя паэтаў, якіх так і не зразумеў народ.

Звяздар. А вось “Біблію” ен задумаў выдаваць зусім не ў класічнай традыцыі, а па-свойму. Менавіта таму, напярэдадні дня Іоана Предтечи, выдае кнігу “Іоў”. Можа якраз таму, што ў долі Іова бачыцца яму ўласны лёс.

Вольны мастак. Пан Францыск – сам астраном, звяздар, філосаф, багаслоў, таму ён склаў уласны гараскоп і прачытаў сваю долю. Я цішком заглянуў у яго і – жахнуўся.

Звяздар. Францыск Скарына – вялікі вучоны, будзе заўсёды рызыкаваць сваёй маёмасцю і жыццём, бадзяцца па чужых землях і водах, краінах і царствах, гарадах і цэрквах.

Блазан. Як Іоў, будзе несці пакаранне і пракляцце за далучэнне да вялікай чорнай таямніцы. У кнізе ён змесціць гравюру, на якой д’ябал лупіць розгамі беднага Іова. І яго самога будуць біць. З Кёнігсберга яго, ледзь не самага выдатнага вучонага свету, выганяюць палкамі пратэстанты. У Масковіі будуць паляць ягоныя кнігі, вялікае вогнішча ледзь не прыхапіла і самога выдаўца.

Бялянка. У нас цяпер ужо не паляць. У нас цывілізацыя – проста саджаюць, ці забіваюць.

Звяздар. Ягоныя кнігі не спатрэбіліся і братам-беларусам, хіба што празмерна вучоным.

Блазан. На нашай зямлі заўсёды дрэнна жывуць вучоныя, асабліва калі яны беларусы (Ул. Караткевіч).

Звяздар. Але яны на гэта не зважаюць, бо служаць Богу, а не Мамоне. Памрэ раптоўна яго жонка Маргарыта, пакінуўшы дваіх маленькіх дзяцей. Пачаліся суды, кручкатворства, турма, канфіскацыі маёмасці (зусім як у Іова). Страшэнны Віленскі пажар, у якім згарэла і друкарня, і ўсё, што засталося. Вымушаны назаўсёды пакінуць радзіму.

Блазан. Эміграцыя – сутнасць беларускага нацыянальнага духу. Або прамая, або ўнутраная.

Прага стала яго магілай, прах развеяны па горадзе, бо могілкі старажытныя знішчаны. Засталіся мемарыяльныя дошкі па ўсіх гарадах Еўропы.

Вольны мастак.

Семь спорят городов о дедушке Гомере,
В них милостыню он просил у каждой двери.
І ў сваёй Айчыне няма прарока.

Блазан. Няма прарока на сваім сметніку. Для беларусаў ніколі не будзе. Ідэя даць беларусам кнігу на роднай мове апярэдзіла час. І Скарына за ўсё, што зрабіў для Радзімы, атрымае непаразуменні, суды, нястачу, выгнанне, замоўчванне, абылганне. Што ж гаварыць пра славу, пашану, гонар, да чаго імкнуцца вялікія людзі. Чалавек – гэта гучыць горда! Пракляты богам край вар'ятаў і ёлупаў. Самі беларусы забудуць цябе. Ты ведаў латынь, грэцкую мову, габрэйскую, чэшскую, польскую, нямецкую, нашто табе была тая мова, якая вымрэ ў 21 ст., а на яе рэдкіх носьбітаў будуць глядзець як на іншапланецян.

Звяздар. Але без гэтага не было б Беларусі, ніколі не было б нас у цяперашнім разуменні. Не было б народа, нашай дзяржавы, нашай культуры, якая еўрапейская з тых часоў і якою трэба ганарыцца, а не сароміцца. І нам трэба схіліць галаву перад вялікім сынам народа, які ў надзвычай цяжкіх умовах Не просил еси собе дней многых, ни богатства, ниже души врагов твоих, но жадал еси собе мудрости…,а аддаць жыццё служэнню Радзіме і яе людзям паспалітым.

Бялянка. Дык хто ж ён такі??? Дурань??? Святы?!!

Звяздар. Мудрости зачало и конец.

*Паступова знікаюць усе твары і абліччы, у самым канцы артысты гурта, апошнім Ф. Скарына. Апошні акорд музыкі гучыць у поўнай цемры.*

# “Доля пракокаў…”

## *(пра драму Івана Штэйнера «Мудрости зачало и конецъ або Спакушэнне Францыска Скарыны»)*

Імя Францыска Скарыны вядома ўсім: яно ўзгадваецца ў школе пры вывучэнні курса роднай гісторыі, у раздзеле старажытнай літаратуры пададзены звесткі пра славутага беларуса рубяжа XV ст. Што пра яго ведае сярэднестатыстычны (не гісторык і не філолаг) беларус? У асноўным тое, што Францыска Скарына: 1) беларускі асветнік эпохі Рэнесанса; 2) доктар медыцыны; 3) перакладчык Бібліі на старабеларускую мову. Што ж, і гэта нядрэнна, але, па вялікім рахунку, амаль нічога!

Францыск Скарына – беларускі асветнік-гуманіст эпохі Рэнесансу, заснавальнік усходнеславянскага кнігадрукавання; творчая асоба; чалавек litнабаковых талентаў і энцыклапедычных ведаў, шырокіх дэмакратычных поглядаў. На жаль, сучаснікі Скарыны не змаглі да канца зразумець і ацаніць сапраўдную веліч духоўнага подзвіга нашага суайчынніка і доўгі час яго спадчына была для славян таямніцай. Мала хто і згадае, што Францыск Скарына у выключнай ступені садзейнічаў фарміраванню беларускай літаратурнай мовы.

Праўда, нельга сказаць, што ў апошні час не здзяйсняліся спробы асэнсаваць значымасць Скарыны для нацыянальнай культуры. Так, існуе шмат літаратурных твораў, прысвечаных дзейнасці першадрукара, і беларускія філолагі-літаратуразнаўцы добра знаёмыя з такімі з іх, як драматычная паэма-трылогія “Георгій Скарына” Мікалая Клімковіча, бурлескная п’еса Мікалая Адамчыка і Мікалая Клімковіча “Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія”, драматычная паэма-“фрэска” “Судны дзень Скарыны” Мікалая Арочкі, дылогія Алеся Петрашкевіча “Напісанае застаецца” і “Прарок для Айчыны”, драма “Кракаўскі студэнт” Георгія Марчука, камедыйны трылер Андрэя Курэйчыка “Скарына”.

Існуе думка, што чым далей падзеі гісторыі ад сучаснасці, тым лягчэй разглядаць вядомую асобу, тым прасцей бачыць яе ў пераломленым гістарычным часе. Ці ж прасцей? Так, калі за пяро бярэцца Майстар, які прапусціў праз сабе велізарны пласт літаратуры, Майстар, які валодае выключным уяўленнем, інтэлектам і эстэтычным густам. Пра гэта згадваеш, калі знаёмішся з п’есай “Мудрости зачало и конецъ або Спакушэнне Францыска Скарыны”,

што зусім нядаўна папоўніла айчынная Скарыніяну. Гэта першы драматургічны твор Івана Штэйнера, вядомага даследчыка, прафесара, члена-карэспандэнта Міжнарожнай акадэміі навук Еўразіі, аўтара амаль 30 манаграфій па беларускаму фальклору, гісторыі беларускай літаратуры ў славянскім і еўрапейскім кантэксце, праблемах і перспектывах класічнай літаратуры ў эпоху глабалізацыі, творчых партрэтаў дзеячаў сучаснай беларускай літаратуры. Цяпер з літаратуразнаўцаў, задача якіх – крытыкаваць, Іван Фёдаравіч пераходзіць у творцы, каб тварыць і… падвяргацца крытыцы.

Чытач, які звыкся з класічным вобразам Францыска Скарыны і гістарычнага антуража ягонай эпохі праз літаратурна-мастацкія творы пра беларускага асветніка і ведае Скарыну ў традыцыйным гісторыка-культурным кантэксце, будзе проста збянтэжаны новай літаратурнай інтэрпрэтацыяй. У п'есе Івана Штэйнера ўсё незвычайна: архітэктоніка, вобразы, кантэкст, мова. Хто б мог падумаць, што гэтую кананічную глыбу можна перанесці ў сферу інтэртэкстуальнасці, пастыша, гратэску?!

П'еса не структураваная вонкава: яна не дзеліцца на дзеянні, акты, але яна не з'яўляецца таксама і аднаактоўкай, бо чытаецца як суцэльны твор, у якім прысутнічае ўнутраная структура з экспазіцыяй і эпілогам.

У экспазіцыі, якая прадстаўляе сабой дыялог Скарыны і Бялянкі, відавочна праступае камедыйны характар, і здаецца, што гэта будзе камедыя. Але далей дзеянне пачынае нагадваць такую жанравую разнавіднасць, як капуснік (сцэнічнае дзеянне ў гонар юбіляра) з канцэртнымі нумарамі: старадаўнімі песнямі і мелодыямі, анекдотамі, канферанс, хіба што танцы не прадугледжаны аўтарам (хоць аднавіць гэты прабел цалкам будзе пад сілу рэжысёру-пастаноўшчыку!). Драму Штэйнера немагчыма аднесці да якога-небудзь з вядомых жанраў як літаратурных, так і сцэнічных. Ярка выяўленая дыдактычнасць тэкставага матэрыялу дае падставу разглядаць п'есу як тэатралізаваную лекцыю (сучасныя адукацыйныя тэхналогіі цяпер усё больш настойліва патрабуюць развіцця інавацыйных формаў і метадаў правядзення заняткаў: відэарад і відовішчнасць - вось чаго хоча сучасны студэнт!). Ці як цалкам новы жанр, у якім прысутнічаюць элементы амаль усіх літаратурных і канцэртна-тэатральных жанравых разнавіднасцяў. Назавем гэта драмай-мікс.

Персанаж «Бялянка» дзейнічае толькі ў пачатку, а потым саступае сваю ролю вядучага двум персанажам - навукоўцу Астролагу

(у тэксце - Звяздар) і перасмешніку-філосафу (у тэксце - Блазан), якіх, верагодна, варта ўспрымаць як alter ego аўтара, бо яны спалучаюць навукова-сур'ёзнае і сатырычна-гумарыстычнае-амбівалентнае адзінства, якое характэрнае для мыслення прафесара І.Ф. Штэйнера.

У філасофска-гістарычным капусніку біяграфічным звесткам аб Скарыне надаецца надчасавы характар: рэмінісцэнцыіі з гістарычнымі асобамі розных эпох, згадкі і спасылкі на дзейнасць Ф. Скарыны ў літаратурна-гістарычных працах. Драма прысвечана асобе Францыска Скарыны, імя і справы якога ў еўрапейскай навуковай і філасофскай думцы заўсёды ўспрымаліся неадназначна. Аўтар п'есы імкнецца аб'яднаць ўжо вядомыя звесткі пра Скарыну: ўдакладніць паасобныя моманты яго біяграфіі, вызначыць межы ўплыву асобы беларускага асветніка на гістарычны працэс, паказаць кола ўзаемадзеяння Скарыны і яго еўрапейскіх сучаснікаў. Для гэтага ствараецца дзелавы антураж ў сучасных рытмах - сам Скарына жадае арганізаваць акцыянернае таварыства "Scaryna & K °», мэта якога - «працягнуць працу ў напісанні творчай біяграфіі і далейшай распрацоўцы іміджу Скарыны», «выпрацаваць генеральную лінію» вывучэння яго дзейнасці.

«Дык хто ж ён такі? Дурань? Святы? ». Гэтае рытарычнае пытанне ў фінале п'есы павісае як дамінантсептакорд, не дазволены ў тоніцы, і быццам запрашае да далейшага дыялогу з гісторыяй, даследавання і асэнсавання. Вырашэннію гэтага пытання падпарадкавана ўвесь змест твора: маючы магчымасць стаць багатым і знакамітым, Скарына абраў шлях непрыбытковы і небяспечны для жыцця і таму ўпадобіўся біблейскаму Іову, кнігу пра якога ён пераклаў 10 верасня 1517 года.

Кім жа наканавана стаць Францыску Скарыне? Можа, купцом - паслядоўнікам бацькі, ці пайсці сваім шляхам, цярністым, напоўненым нягодамі, стратамі, пакутамі, непаразуменнем, знішчальнай крытыкай?!.

Вучоны і купец, прадпрымальнік-менеджэр - гэта як бедны філосаф і мецэнат - дзве рэчы несумесныя, з той розніцай, што толькі нешматлікія адзінкі прадстаўнікоў вучонага свету могуць стаць багатымі і знакамітымі за кошт прыбытку ад сваіх вынаходніцтваў, а прадпрымальнікі заўсёды маюць прыбытак, які залежыць ад размаху дзейнасці і ступені «камерцыялізацыі» розуму. Стаць вядомым і багатым, змяніць свет можа і неадукаваны хуліган, як, напрыклад, Стыў Джобс - кампутарны геній, былы гендырэктар Apple, стваральнік iPhone, iPad, iPod і іншых электронных штуковін;

дыслектык, недавучка, ён па капельцы збіраў сваё багацце - здаваў пустыя бутэлькі, купляў і перапрадаваў рухомасць і нерухомасць, акцыі і кампаніі. Менавіта таму, падкрэсліваецца ў п’есе, «выкладчыцкая дзейнасць ва ўніверсітэце ніколі не дасць <...> таго, што нясе гандаль». Вучоны - гэта «няўдзячная дарога служэння Радзіме і народу», купец - шлях асабістага ўзбагачэння. Тым не менш, у асобе Францыска Скарыны былі «арганічна спалучаны і навуковец, і купец-менеджэр.

Такім чынам, каб распавесці пра Скарыну, на сход прэзентацыі дасягненняў фірмы прыходзяць чатыры «сведкі» падзвіжніцкай дзейнасці Скарыны, якія ўувасабляюць чатыры аблічча ягонай асобы, чатыры галіны навук, у якіх праславіўся наш вялікі суайчыннік, - Парацэльс, Марцін Лютар, Эразм Ратэрдамскі і Вольны мастак.

Парацэльс - рэфарматар ў галіне медыцыны - прапанаваў Скарыну рабіць грошы на фармакалогіі: «... прапаную арганізаваць канцэсію па стварэнні серыі аптэк, з дапамогай якіх мы будзем распаўсюджваць лекі ад усіх хвароб, нават свінога грыпу». Палілог герояў (Парацэльс - Блазан - Звяздар) раскрывае асобу Скарыны як лекара, што не згодны з многімі палажэннямі медыцынскай дактрыны Парацэльса і яго паслядоўнікаў - сучасных прадстаўнікоў «ад цэнтраў нетрадыцыйнай медыцыны, таварыства шаптух і знахарак, фірм па рэалізацыі і лізінгу ...». З якой радасцю Скарына сустракаў свайго першага госця! Але потым, засмучаны яго ненавуковымі прапановамі, раздражнёна сказаў: «На сёння камерсантаў, прадпрымальнікаў болей не пускаць, яны могуць спакусіць <...>, бо бляск золата зацьміць любыя вочы».

Лютар - рэфарматар ў галіне багаслоўя, заснавальнік адной з пратэстанцкіх канфесій - зрабіў акцэнт на духоўнай лініі творчасці Скарыны: «Кнігі пана <...> прызначаны не для карпаратыўна-царкоўнага карыстання, а пераважна для індывідуальнага чытача». І следам за ім паўтарае Блазан-Йорык: у кнігах Скарыны «спалучаны народныя і кніжныя традыцыі, уласнае і сусветнае». Лютара і Скарыну аб'ядноўвае адно імкненне - «даць сваім народам Слова Божае на роднай мове». І калі Лютар «перакуліў духоўны свет Еўропы: ён стварыў ідэалогію і рэлігію для буржуазіі <...>», то Скарына хацеў перавярнуць духоўны свет славян, але не з дапамогай нейкай новай ідэалогіі або рэлігіі - ён хацеў зрабіць даступным для простых беларусаў духоўны свет Бібліі і сцвердзіць хрысціянскія адносіны да ўсяго навакольнага. Аднак першыя пробы канфесійнага самавызначэння Скарыны так і засталіся «незразумелымі да

канца...» як Лютару, так «і сотням будучых даследчыкаў <...> спадчыны». Скарына не быў ні праваслаўным, ні каталікам, ні пратэстантам, ён быў проста вернікам, чалавекам-асветнікам і гуманістам; ён стаяў «на пазіцыях індывідуальна-гуманістычнага руху» і верацярпімасці. Таму яго і не прынялі на Ўсходзе, не зразумелі на Захадзе. Францыск Скарына «імкнуўся аб'яднаць хрысціян усіх канфесій» у адзіную «царкву Хрыстову» - «маці ўсіх хрестиан».

Шмат што лучыць Марціна і Францыска, але не ў характары Скарыны мяняць свае духоўныя перакананні, і на заклік Лютара: «Пераходзь у наш лагер, я буду чакаць» - Скарына не адказвае, а ў п'есе з'яўляецца ўстаўка з анекдотамі і жартоўным дыялогам паміж Звяздаром і Блазнам, што зніжае напружанне сцэны.

Эразм з Ратэрдама - філосаф, гуманіст, «самы аўтарытэтны даследчык і выдавец Святога Пісання <...> выключны філосаф». Толькі ён з усіх гасцей правільна ацаніў дзейнасць Францыска Скарыны: «перш за ўсё філосаф» , які «ў сваіх "Прадмовах" з дапамогай біблейскіх тэкстаў разважае аб сутнасці чалавека і яго жыццёвым прызначэнні». Эразм канстатаваў заслугі Скарыны перад Айчынай і Еўропай і не прапаноўваў яму ніякіх "гешэфтаў".

Скарына быў не толькі мысліцелем, гуманістам, асветнікам, першадрукаром, але і мастаком - ён меў званне доктара «вольных» навук Кракаўскага універсітэта, а ў іх лік тады разам з матэматыкай, філасофіяй, музыкай ўваходзіла і маляванне. Апошні госць Скарыны - Вольны мастак з Прагі - захапляецца геніяльнасцю Скарыны, які «Першы сярод славянскіх друкароў зразумеў вартасць мастацкага вобраза ў змесце кнігі» і карыстаўся мастацкай графікай і кніжнай ксілаграфіяй для афармлення сваіх друкаваных шэдэўраў. Скарына быў аўтарам большасці гравюр у пражскіх выданнях - задумваў і маляваў іх, сачыў за выкананнем у матэрыяле і, паставіўшы на іх сваю манаграму - выява злучаных сонца і месяца, - сведчыў: «Гэта - маё!». Можна адзначыць, што Скарына - персанаж п'есы - праявіў непавагу да Мастака, які вымушаны быў гутарыць са Звяздаром і Блазнам, бо Скарына сышоў з поля зроку чытача разам з Эразмам Ратэрдамскім (ім, відавочна, ёсць пра што пагаварыць, а маляванне - гэта проста хобі геніяльнага чалавека, які геніяльны ва ўсім).

У п'есе вельмі шмат вострых момантаў, шмат смелых выказванняў аўтара, у прыватнасці аб Захадзе і нашай талерантнасці («у цэлым мы вельмі прыхільна сустракаем чужынцаў <...>, асабліва ўсялякую на́брыдзь, якая потым пачынае нас вучыць жыць»), пра ЕС («як і ва ўсё часы, не вельмі шануюць нас у той Еўропе <...> мы там

нікому не патрэбныя ... », аб сучаснай фармакалогіі («калі хваробы няма, то гэта не так істотна: было б лякарства, а хваробу мы прыдумаем » ). Іван Штэйнер робіць акцэнт на адукацыі, праводзіць паралелі, згадвае актуальную цяпер тэму Балонскага працэсу, прыводзіць рэмінісцэнцыі выказвання У. Караткевіча аб тым, што «на нашай зямлі заўсёды дрэнна жывуць вучоныя, асабліва калі мы беларусы» (і нічога не змянілася нават цяпер!).

Розум, веды, вядомасць, рэспект і павага ў стагоддзях. Здавалася б, чаго яшчэ жадаць? Але лёс чалавека часцей за ўсё залежыць ад «свіней, аслоў, малпаў»: «... як высока ты не ўзлятаеш, заўсёды кінецца пад ногі свіння - і ты ўжо на зямлі». І такіх зайздроснікаў ў жыцці Скарыны было нямала ...

Інфармацыйна-гістарычныя ўстаўкі аўтар п'есы падаў голасу гісторыі - голасу за кадрам, які выконвае ролю аўтарскіх рэмарак-тлумачэнняў, падобна хору - неад'емнаму персанажу старажытнагрэцкіх трагедый. Голас-хор удакладняе некаторыя выказывания герояў і г.д.

У п'есе няма таго, што звычайна называюць развязкай. Пасля кульмінацыі надыходзіць непасрэдна эпілог, у якім Блазан і Звяздар падводзяць вынік інтэлектуальнаму «кастынгу» выказванняў гасцей, якія выступалі на сходзе «акцыянераў», суміруюць усе меркаванні аб Францыску Скарыне і прыходзяць да несуцяшальнай высновы: «няма прарока на сваім сметніку. Для беларусаў ніколі ня будзе». Нямала зрабіў асветнік для свайго народа, але беларусы на доўгі час забыліся пра яго. Ён так выступаў за мову для «людцаў паспалітых», але да чаго «тая мова, якая вымрэ ў XXI стагоддзі <...> Навошта даваць надзею?» Але без Скарыны не было б і Беларусі ў сучасным яе статусе, «не было б народа, нашай дзяржавы, нашай культуры <...>, якою трэба ганарыцца, а не сароміцца». Наўрад ці варта каментаваць гэтыя словы, якімі можна было б і скончыць кароткі аповед пра тое, як пры жыцці не прыняты «сваімі» беларус Францыск Скарына і праз стагоддзі застаецца загадкавым і незразумелым большасці з тых, каму ён нёс кнігу і Благую Весть.

Літаратуразнаўцам яшчэ трэба папрацаваць з тэкстам драмы Штэйнер і, разабраўшы яе «па костачках», разгледзець рэпрэзентатыўны аспект інтэртэкстуальнасці (г.зн. паглядзець на інтэртэкст як бы знутры драматычнага тэксту, выкарыстоўваючы яго ўнутрытэкставыя маркеры - цытаты, алюзіі, рэмінісцэнцыі), выявіць элементы пастыша, даць ацэнку знешнелітаратурнага напаўнення п'есы - рэмаркі аўтара па выкарыстанні музычных і літаратурных

уставак, звярнуцца да маўленчага боку драмы, напоўненай афарызмамі, сучаснай лексікай з яе амерыканізмамі і жарганізмамі.

П'еса Івана Штэйнер «Спакушэнне Францішка Скарыны» проста знаходка для рэжысёраў: аўтар абмаляваў ўсе сцэнічныя вобразы, пазначыў мізансцэны, прадумаў за пастаноўшчыкаў света-, гука-і відэарад, музычнае суправаджэнне, пакінуўшы пры гэтым свабоду выбару і дзеяння. Для пастаноўкі такога спектакля патрэбны рэжысёр, які валодае добрым вобразна-мантажным уяўленнем, але пра гэта ў нас яшчэ будзе магчымасць пагаварыць, паколькі адзін з беларускіх тэатраў ужо паставіў па ёй спектакль.

Драматургічны твор І.Ф. Штэйнер ў сцэнічным варыянце можа стаць візітоўкай ГДУ імя Ф. Скарыны і заняць годнае месца ў драматургічнай Скарыніяне. Асабліва ў 2012 годзе, бо менавіта шостага жніўня спаўняецца 495 гадоў беларускаму і ўсходнеславянскаму кнігадрукаванню. А наперадзе - пяцісотгадовы юбілей.

*Т. Аўдоніна, к.ф.н., дацэнт*

# СКАРЫНА, ЯКІ ВАНДРУЕ Ў ЧАСЕ

Лёс да гэтай п'есы не можа быць аднолькава спрыяльным. Рознаскіраваныя і спаборныя выказванні абавязкова парэжуцца аб ускрай спрэчнага тэксту. Тэксту з відавочнымі прыкметамі эстэтызаванай "зборнасці", аж да рысаў постмадэрнісцкага выказвання. Чытачы ці гледачы будуць шматкроць натыкацца на колкасці, жарты, жарганізмы, часам вульгарызмы ды іншыя вастраслоўі, якія ўва ўспрымальнай свядомасці наўрад ці здолеюць адшукаць бясспрэчна добрасуседскае ўтульнае месца для супольнага існавання. А дактрынерска-дыдактычны дыскурс, што маналітным мурам-сцяной паўстае ад статычных маналогаў знакамітых дзеячаў Сярэднявечча (Эразма Ратэртамскага, Парацэльса, Лютара), не надта прывабіць аматараў класічна строгага разумення дынамічнай драматургічнай калізіі. Галоўная ж, аднак, падстава для таго, каб "парэзацца" аб п'есу – сам Скарына, нацыянальны сімвал і нацыянальны фетыш, непазнавальны напачатку (згодна з аўтарскай задумай, на што паказваюць драматургічныя рэмаркі) і надта "знаёма-пазнавальны" ў фінале п'есы. А да святынь, як вядома, і стаўленне адмысловае – недатыкальнае.

Яно, зрэшты, так ужо і сталася. Першая спроба прабіцца да беларускага чытача, ажыццёўленая Іванам Штэйнерам пад наўмысным імем Івана Прылуцкага, сустрэла дастаткова агрэсіўны адпор. Знайшліся крытыкі, якія гэтую драматычную іншасказальна-павучальную "казку" аднеслі да ліку мастацка-гістарычнай праўдзівай скарыніяны, а таму вывудзілі ў змесце "тысячу і адну памылку" ў постаці Скарыны. І, цешачыся са знойдзеных памылак" і факталагічных "недакладнасцяў", страцілі з поля зроку нешта галоўнае, можа быць, тое, дзеля чаго "казка"-драма і пісалася. Страцілі нас, былых і сучасных, сучасных і будучых, – і тым самым надзейна пахавалі сутнасць твора пад стусам самага павярхоўнага і самага прымітыўнага погляду.

Але ж не будзем забываць: у аўтара драматычнага твора магчымасці ўплываць на правілы чытання свайго вымысленага "дзіцяці" вельмі абмежаваныя, яго героі не на такім кароткім аўтарскім "павадку", як у лірыка ці, пагатоў, у эпіка. Героі – і ў тым найбольшая ілюзія ў драматургіі – нібыта дыхаюць самі, жывуць самі, дзеюць самі. Аўтар мае права бездапаможна назіраць за імі, зрэдзьчас карэктуючы іх "свавольства" толькі сціслымі рэмаркамі – у знак усё таго ж: каб не разбураць законаў ілюзіі, асноватворных у мастацтве.

Аўтарскі канцэптуальны жэст найбольш заўважальны хіба што ў загалоўку твора – той вельмі невялікай тэкставай пляцовачцы, дзе і фармуюцца асновы ”правілаў”, якімі варта карыстацца пры дакрананні да створанага драматургам мастацкага свету.

А загаловак тут з відавочнай пытальнай інтанацыяй: “мудрасці зачало иль конецъ”? Знак пытання, знак знаёмага і незнаёмага, як і вядомага ці няўведанага Скарыны, вымушае выйсці на авансцэну не так праўдзівую постаць вялікага падзвіжніка вялікай эпохі Адраджэння, колькі алегарычную яго духоўна-патэтычную самасць, іншасказанне, звернутае да сучаснасці. Навошта прадпрымальнаму чалавеку было тварыць не бачаны дагэтуль “тавар”? Тавар, як сказалі б зараз, “непрапіяраны”, а, значыць, і надта рызыкоўны – друкаваць кнігу, ды яшчэ на той мове, з якой “мя милостивый Бог на свет пустил”? У гроне беларускай гісторыі ды яшчэ з улікам цяперашняга стану, калі нават ЮНЭСКО акрэсліла статус беларускай мовы бязрадасна: выміраючая – вось пытанне, якім найбольш задаецца “драматургічны” Скарына. Да чаго яно сэнсава схіляецца ў большай ступені: да таго, што гэта ёсць “зачало” нейкай простай чалавечай і ў той жа час вялікай дзяржаўнай мудрасці, ці да таго, што гэта яе супраціўнасць – нястача, недахоп, калі беларуская мудрасць наіўна захлынулася, так і не пачаўшыся, зайшлася сваім няспраўджаным абяцаннем – “канцом”?

У філалогіі семантычныя апазітывы “пачатак” і “канец” (“начало”/“конец”) разглядаюцца як аднакарэнныя, як тое далёкае пра-слова, якое вынікла калісьці з аднаго кораня. Мы кажам: “канец”, а ў фанетычным вобліку слова чуем адваротную семантыку – акурат нешта, што пастаянна імкнецца “*ко ньчю*”, г.зн. “*к началу*”, замыкаючы тым самым кругабег чалавечага светаўспрыняцця адным цэлым, непарыўным колам, дзе кожная кропка ўадначассі становіць сабой і пачатак, і канец. І вось ужо Скарына ў “коле” мастацкага свету п’есы, апярэджвае сваю эпоху і час, у якім жыў, выбегшы далёка наперад са свайго канечнага стану – аж у нашу сучаснасць. І замысляе дзіўнае тут прадпрыемства “Skaryna and K°”, нібыта нанова і на сучаснай глебе ды ў прысутнасці цяперашняга гледача ўсчынае справу, якая насамрэч зроблена даўно і якая вялікім пачынаннем абяссмерціла і яго імя, і яго род чалавечы, і яго зямлю.

Справа зроблена – аднак, што ж? “Навошта, – звяртаецца з рытарычным пытаннем да беларускага першадрукара яго пастаянны апанент Блазен, – даваць надзею?”

Вось жа чалавек яшчэ напачатку XVI стагоддзя ўзяў і выдрукаваў Біблію на матчынай мове (бо, паўторым, з ласкі Божай сам на свет з яе пайшоў) і тым самым узвёў яе ў ранг несумненных святыняў. Мова такім парадкам, як кажа адзін са сцэнічных персанажаў, "упершыню сакралізуецца аўтарытэтам друкаваных кніг". Другі інтэлектуальны ўнікум эпохі еўрапейскага Адраджэння – Эразм Ратэрдамскі, эрудыт і паліглот, які ў сваёй грамадскай практыцы віртуозна скарыстоўваў больш за дзясятак розных моў, – ў апошнія імгненні зямнога існавання, ідучы на сустрэчу з Усявышнім, два перадсмяротныя развітальныя словы прамовіў таксама на матчынай мове. Таму яны, Скарына і Эразм, у п'есе і сталі побач – персаніфікаваным пытаннем: ну а мы,сучасныя, што ж?

Так што драма І.Штэйнера не зусім пра Скарыну. Творы наогул не бываюць "*пра*". Яны нешта сцвярджаюць ці адмаўляюць з дапамогаю ўвасобленага "*пра*". Дык вось, твор гэты "пра" нашае духоўнае самапачуванне, "пра" ступень яго трываласці і надзейнасці перад выклікамі часу, цяперашнімі і вечнымі. Скарына ж прысутнічае як "двайное бачанне" нас саміх, як адмысловае люстра, у якое ўзіраецца наш цяперашні этнічны Дух у сустрэчным руху ўзаемнага пазнавання: мы – да Скарыны і Скарына – да нас. Ці ж, хаця, пазнаемся? – у гэтым сэнс адной з прыхаваных аўтарскіх іншасказальнасцяў першапачатковага сцэнічна змененага вонкавага вобліку загалоўнага героя драмы. А Скарына, у сваю чаргу, ўзіраючыся ў паўзмрок глядзельнай залы, мог бы паўтарыць следам за вядомым літаратурным персанажам бессмяротнага рамана М.Булгакава: някепскія, у прынцыпе, людзі, як быццам тыя самыя, што і раней, але іх дарэшты сапсавала нейкае нявырашанае пытанне... Перад беларускім асветнікам прастора нашай сучаснасці магла б паўстаць па-свойму спрошчанай і прымітыўнай паводле вялікіх маральных запатрабаванняў, абездухоўленай, усё адно як знябожанай, дзе пастуляванае назіранне: "Хрыстос здзяйсняе сваё жыццё, а Іўда піша ягоную біяграфію" сапраўды становіцца вядучым прынцыпам грамадскага ўсталявання. Ці дзіва, што ў гэтае прасторы сярод першых памагатых вялікаму духу Скарыны з'яўляецца не нехта значны, роўнавялікі, напрыклад, Багдану Онькаву ды іншым рэальным паплечнікам Скарыны ў сярэднявечную пару, а поўная супрацiўнасць – тыповы сучасны персанаж легкамыснай бландынкі ("Бялянкі") з тыповай формулай мэтавызначальнага сучаснага ўваходжання ў жыццё: тым часам, калі на нябёсах "дзялілі розум", яна сабе на зямлі "цыцкі выбірала". І прастора перакульваецца.

Перакульваецца свет ад свайго “зачала” “ко ньчю” – да пачатку, дзе зусім не відавочным муліўся адказ на вызначальнае і складанае пытанне: чаго ж тады вартым было тое “зачало”, калі нашчадкі па нейкім часе не могуць як след прыраўняцца да той гуманістычнай вышыні, якая была ўжо ўзятай, не могуць трывала замацавацца на ступеньках вялікаснага вопыту вялікасных нашых папярэднікаў? Усвядоміць не могуць, што вынік высакароднага памкнення вось так дробненька і прымітыўна, так прагматычна бездухоўна адбіўся на агрэсіўна спажывецкім аблічы іх нашчадкаў?

Ой, не “пра” Скарыну гэты твор, не пра Скарыну... Па меры таго, як заглыбляешся ў пласты тэксту, духоўных “парэзаў” ад п’есы ўсё больш і больш. І ўжо не так ад гумарыстычнага вастраслоўя і шчодрага россыпу карнавалу, карнавальнай весялосці і жартоўнасці, чым напоўнены паверхневы тэкставы пласт п’есы-*драмы*, а ад адмысловай іранічнай і нават гораснай аўтарскай усмешкі. Як у Лермантава – памятаеце? – пра балесную горыч усмешкі “падманенага сына”? З той толькі розніцай, што права ўсміхнуцца так расчаравана мае адваротны адрасат – далёкі і слынны наш продак Скарына.

Адваротнасць, карнавальная перакуленасць (г.зн., такое бачанне рэчаіснасці, калі глыбіннае, “падспуднае”, выходзіць напаверх у шумным і шматгалосым, некантралюемым парыванні) вызначае сутнасць драматургічнай калізіі ў гэтым творы. Тут усё, як і належыць карнавалу, увабрана ў маскі.

Маска – Скарына, воблік якога, паводле аўтарскай рэмаркі, мяняецца на працягу спектакля. А сапраўдны воблік, паводле аўтарскай рэмаркі “класічны”, з якім усе звыкліся, аказваецца, “набывае толькі ў канцы дзеяння” – акурат тады, калі карнавал і павінен скончыцца.

Маска – сакратарка “Бялянка”. Як сапраўдная сакратарка, яна ведае ўсё. Гэтакі прарочы дар абсалютнай дасведчанасці ў часе і прасторы. Яна, у адрозненне ад Скарыны, ведае і яго лёс, і будучыню яго справы, і нават тое, што Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт будзе названы бессмяротным імем. А такія паняцці, як “прэзентацыя”, “праект”, “dress-code”, “Velcome”, “Life” і да таго падобнае не складаюць для яе ніякай анахранічнай загадкі. Нейкая ўніверсальная бюракратычная вечнасць выступае апякункаю гэтага недвухсэнсоўнага персанажа.

Маска – знаныя персанажы сусветнай гісторыі: Парацэльс, Лютар, Лука Скарына. З іх, гістарычных асоб, па заўвазе аўтара, хіба адзін Эразм Ратэрдамскі мае “выгляд класічны” – відаць, з-за

глыбіннай удзячнасці да сэнсу апошняга жыццёвага акту, здзейсненага выдатным дзеячам эпохі Гуманізму.

Маска – сама сцэнічная прастора. Як імітацыя шырокага вірлівага праспекту карнавальнага шэсця. Самым нечаканым чынам сутыкаюцца на сцэнічным карнавальным праспекце і манументальныя маларухомыя "лялькі" Звяздара, Артыстаў, Голасу з-за сцэны, у вірлівых сцэнах з аскетычнага жыцця "ў лета 15-атае ад нараджэння Хрыстова", прыпраўленых дасціпнымі згадкамі з сучаснасці пра наяўнасць "балонскага працэсу" ці Еўрапейскага Саюзу.

І нават аўтар – маска. Ён наўмысна сваёй маскай забаўляецца – то пацвельваючыся з чаканняў даверлівага гледача бачыць драму на "гістарычную тэму", то свядома ствараючы сітуацыйныя камічныя анахранізмы і густое перапляценне нораваў розных часоў, то, нарэшце, сам выступаючы ў ролі паўнапраўнай дзейнай асобы, калі аўтарскія рэмаркі ў дачыненні да персанажаў пачынаюць нагадваць самастойныя рэплікі, якія таксама нейкім чынам і некаму трэба сыграць у гэтым дзіўным карнавале.

Я ўзіраюся ўва ўсё гэтае шыкоўнае містэрыйнае дзейства і згадваю феномен так званай "школьнай драмы" ў гісторыі беларускай драматургіі. У сярэднявеччы школьныя прафесары, часам сумесна са шкалярамі, дзеля дасканалага засваення дыдактычнага матэрыялу, пісалі арыгінальныя п'есы. Тыя п'есы ставіліся на падмостках школьных тэатраў і – за межамі першасных заданняў – стварылі нечакана новы рух драмы, упісалі новую і неабходную старонку і драматургічнай эстэтыкі, і эстэтычна-мастацкага развіцця наогул.

Вось і цяпер універсітэцкі прафесар узяў у рукі зусім не дыдактычную ўказку. Ён макнуў сваю дыдактычную асадку ў чарнільніцу вялікай мастацкай традыцыі і па шкалярскай завядзёнцы прапанаваў на самастойнае разважанне п'есу. Як своеасаблівае хатняе заданне. Адказ на яго нам яшчэ трэба выпрацаваць. Што нас чакае? Што будзе з гэтага руху? Ува што ўвасобіцца?

Пакажа час будучы. І, напэўна, той час, з якога так запытальна пільна глядзіць на нас Скарына.

*І. В. Жук, доктар філалагічных навук,*
*прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы*